PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 44 (2164) Год XLII Беласток 2 лістапада 1997 г. Цана 1 зл.

# Там ляжыць чалавек

Пачаткаў ушаноўвання памяці памерлых трэба шукаць ля першай чалавечай магілы. Звычай памінаць пакойнікаў цягнецца з дагістарычных часоў і ў розных эпохах набываў розныя формы.

Ля многіх вёсак Падляшша ў лясным гушчары можна сустрэць адзінокія салдацкія магілы, а па палях — курганы, сляды колішніх пахаванняў. На жаль, да гэтых месц цяпер ужо ніхто са знічом не прыходзіць. А належыцца ім так няшмнога — крышынка людской памяці, крыж або валун, адным словам, патрэбны ім жэст чалавечнасці. Кветкі і зніччы, якія ў лістападзе нясем на магілы сваіх блізкіх, гэта знешняе выяўленне памяці жывых аб памерлых. Стоячы ля магіл родных быццам спыняем час і акунаемся ў роздум аб праміннанні. Нярэдка ў гэты дзень без сораму вызваляем на хвіліну схаваную ў глыбі нас чалавечнасць і адзін раз у год разглядаемся вакол нас і заўважаем штосьці больш чым нас самых. І тады запальваем свечку на самотнай, запушчанай магіле. Пры нагодзе гэтаму жэсту вучым дзяцей, тлумачачы ім, што там **таксама ляжыць чалавек**. Падумайма цяпер аб самотных, забытых і занядбаных месцах пахаванняў раскінутых па выколіцы, а летам спрабуйма давесці іх да парадку.


*Яўрэйскі могільнік у Орлі.*

Кожны год у Орлі ў першую нядзелю пасля Вялікадня адбываецца ўрачыстае шэсце з царквы св. Міхаіла на старое царквіска пры вуліцы Бельскай — да магілаў расейскіх і нямецкіх салдат, якія загінулі падчас І сусветнай вайны. Там у капліцы св. Сымона Стоўпніка адпраўляецца паніхіда і малебен за мір у свеце.

Пры дарозе ў Вульку-Выганоўскую, непадалёк Рыгораўцаў, стаіць стары нямецкі надмагільны помнік з 1915 года. Каменны помнік, звенчаны салдацкім шлемам, змяшчае на сабе прозвічы салдат і нумары кампаніі. Загінулі яны ў гэтым месцы ад нечаканай атакі казакаў. Калісь — успамінаюць старажылы — гэтае месца было ўпарадкаванае і агароджанае. Цяпер яно зарастае самасеўным лесам.

На жаль, не ўсе магілы перыяду І сусветнай вайны пазначаны і ўшанаваны. Каля Рудутаў, пры самой шашы ў Дубічы-Царкоўныя, 200 метраў ад вясковага могільніка знаходзіцца магіла кайзераўскіх салдат, якую нехта раскапаў, шукаючы, мабыць, зброі. Астанкі валяюцца на паверхні зямлі.

Ад багатай яўрэйскай культуры ў Орлі засталася сінагога і колішнія „новыя" могілкі, якія мясцовыя называюць „Кворэс". Да 1943 года пры сінагозе існаваў стары могільнік (на рагу цяперашніх вуліц Чырвонай Арміі ды Жвіркі і Вігуры). Каменныя надмагільныя помнікі (мацэвы) немцы выкарысталі для пабудовы дарог. На новых яўрэйскіх могілках (на рагу вуліц Польнай і Чырвонай Арміі) захавалася 50 помнікаў, якія разбураюцца на неагароджанай некраполіі.

Непадалёк вёсак можна часам сустрэць некалькі старых крыжоў або каменны помнік. Гэта найчасцей сляды эпідэмічных (халерычных, тыфных) могільнікаў, на якія вывозіліся ахвяры эпідэміі. Так было паўтара стагоддзя таму, калі ад заразы памерла большасць жыхароў вёскі Вервечкі. Цяпер у ляску каля Орлі стаіць каменны крыж, які на месцы спарахнелага крыжа паставіў 12 красавіка 1909 года землеўладальнік Пётр Кубаеўскі. Хаця гэтае сумнае здарэнне жыве ў грамадскай памяці, прыкра аднак, што ля крыжа жыхарам неіснуючай вёскі Вервечкі не спраўляюцца малітвы, ніхто не наведвае гэтага месца. А знаходзіцца яно ўсяго 100 метраў ад прыхадскога могільніка.

Каля Крывятычаў, у чыстым полі, 300 метраў ад шашы ў бок Орлі, захаваўся запаўшы ў зямлю каменна-металёвы помнік з надпісам. На гэтым месцы ў канцы XIX стагоддзя жыхары вёскі хавалі малых дзяцей, якія часта тады ўміралі. Месца пахаванняў сяляне ўжо зааралі і сеюць на ім збожжа. А памяць занікае...

У часе эпідэміі расейскія ўлады забаранялі хаваць нябожчыкаў на могілках, якія знаходзіліся ў цэнтры або побач вёсак. Так было ў Парцаве (Бельскай гміны), дзе месца на могільнік вызначылі між вёскай і Вулькай, у полі, каля 100 метраў ад шашы. На ім хавалі памерлых да І сусветнай вайны. Магілы тады абкладаліся толькі дзёрнам і цяпер ад іх засталіся ўсяго невялічкія пагоркі. На гэтым могільніку захавалася многа драўляных і каменных крыжоў, звенчаных каванымі металічнымі крыжыкамі. Цяпер рэдка хто з праязджаючых побач агароджанага паржавелай сеткай і парослага хмызам месца здагадаецца, што гэта стары парцаўскі могільнік.


*Могільнік памерлых ад халеры жыхароў неіснуючай ужо вёскі Вервечкі.*


*Стары могільнік між Вулькай і Парцавам.*

Падляшская зямля скрывае ў сабе многія месцы, на якіх нашы продкі хавалі сваіх памерлых. Некаторыя з іх ужо даследавалі археолагі і яны занесены ў рэестр помнікаў, якія ахоўваюцца законам. Аднак ніхто не цікавіцца гэтымі месцамі. Недалёка Збуча ў Чыжоўскай гміне, у ста метрах ад шашы, знаходзіцца сярэднявечныя пахаванні XI-XIII стагоддзяў у каменных абкладах. З году ў год, з прычыны сялян, змяншаецца плошча гэтай старажытнай некраполіі і калі б не дзве таполі, немагчыма было б туды трапіць. Сярод малазаўважальных магілаў захаваліся два пазнейшыя пахаванні з каменна-стальнымі помнікамі, якія наглядна паказваюць, што там таксама ляжыць чалавек.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# У нумары

# Мы прачыталі

*Беларуска-расейскі канфлікт вакол адкліканага візіту Лукашэнкі ў Расію адбіўся на валютным рынку. Долар, які трымаўся ніжэй за 33 000 рублёў перасягнуў 41 000 пры безнаяўных разліках.*

*Свабода, н-р 110*

* * *

*Рэдкі судовы працэс адбыўся ў Іўі. Разгледзеўшы крымінальную справу аб крадзяжы кветак з мясцовых могілак, суд прыгаварыў вінаватых у гэтым злачынстве дзвюх жыхарак гарадскога пасёлка да чатырох гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Карыстаючыся тым, што могілкі не ахоўваюцца, яны ўкралі з магіл 80 штучных кветак і адзін букет на агульную суму 529 тысячаў рублёў (13 доларaў).*

*Народная воля, н-р 172*

* * *

*Трэба паводзіць сябе дастойна, годна, трэба цаніцца! Мяркуючы па ўсім, вельмі разумна і ўдала зрабілі Янка Сычэўскі і сп. Сяргей Плева,* — піша Мікола Гайдук.

*Czasopis, nr 10*

Безумоўна!

* * *

*W Mohylewie został zabity deputowany, przyjaciel Łukaszenki Jewgienij Mikołucki. Jest to ostrzeżenie dla prezydenta od rosyjskiej mafii. Łukaszenko zadarł z Rosją mafijną. Zbyt aktywnie urząd ds. prezydenta zajmował się działalnością hadlową. Rosyjski świat kryminalny musiał dostrzec, że traci miliony dolarów na pociągach wódki i papierosów, które bezczelnie wwożono na tamtejszy rynek.*

*Gazeta Wyborcza, nr 242*

* * *

*Социологические исследования показывают, что белорусское общество сегодня расколото почти пополам на два доминирующих социальных типа. Один тип характеризуется крайне консервативным, антидемократическим, антирыночным, контрреформаторским сознанием, нетерпимы к чужому мнению. Во всех бедах и неудачах он склонен обвинять разнообразных врагов — более удачливых сограждан или чужих. Другой тип, наоборот, разделяет демократические и риночные принципы, стремится к реформам, более открыт для диалога и сотрудничества с другими. К первому типу в основном принадлежит пожилая, малообразованная, бедная часть населения. Во втором типе доминируют образованные, более молодые люди. Идеал первого типа принадлежит прошлому, его лозунг: „Назад в СССР!" Идеал второго типа принадлежит будущему, его лозунг: „Вперёд, в Европу!" Политика президента Лукашенко опирается и выражает главным образом чувства, интересы и волю первого социального типа, игнорируя и подавляя чувства, интересы и волю другой части белорусского общества. Анализ динамики электората президента Лукашенко за три года показывает, что социально-пассивный тип с консервативным сознанием все больше доминирует. Это значит, что Беларусь идет в тупик.*

*Свобода, н-р 105*

* * *

*Amerykańskie koncerny tytoniowe, wypierane z USA zakazami palenia i utarczkami sądowymi o setki miliardów dolarów, biorą się za płuca polskiej młodzieży. Idzie im dobrze.*

*Polityka, nr 40*

* * *

*Polska to dziwny kraj. Drugorzędne gwiazdki z zagranicy podejmuje się u nas jak wielkie gwiazdy, zaś wielkie gwiazdy — jak królowe. Optymiści twierdzą, że to wyraz tradycyjnej gościnności, pesymiści — że prowincjonalizm. Po raz pierwszy naszego uwielbienia doświadczyła na sobie nieszczęsna niewolnica Isaura, sprowadzona do Polski jeszcze w czasach, gdy po wizy stało się w kilometrowych kolejkach. W takich samych kolejkach stali rodacy także po wejściówki na spotkanie z zezującą Brazylijką. W ostatnich latach gwiazdki zjeżdżają do nas coraz częściej. Odbywają krótkie konferencje prasowe, fotografiują się ze starannie dobranymi osobami. Ich podstawowym obowiązkiem jest po prostu być. Głównym motywem, który każe gwiazdom i gwiazdeczkom poświęcić nieco czasu na Polskę, jest poprawienie stanu własnych finansów.*

*Polityka, nr 41*

* * *

*Prezydent Kwaśniewski pokropił razem z kardynałem Henrykiem Gulbinowiczem nową szkołę w Bielanach Wrocławskich.*

*Gazeta Wyborcza, nr 241*

* * *

*У Нарвегіі на кантынентальнай яе частцы не засталося ніводнага чалавека, які б помніў родную нарвежскую мову. Некалькі такіх людзей адшукалі на астравах. І нарвежская мова адрадзілася. Бо справу арганізавала дзяржава. Бо дзяржава разумела: няма мовы — няма нацыі. Няма нацыі — аддай зямлю!*

*Літаратура і мастацтва н-р 41*

Наша сітуацыя пакуль што намнога лепшая, чым у нарвежцаў. У самой Беларусі родную мову ведае і карыстаецца ёю амаль 2 мільёны грамадзян. Так прынамсі гавораць усялякім сацыёлагам-даследчыкам.

* * *

*В деревне остаются в основном лишь те, кто выпивает в год около 180 поллитровок водки.*

*Народная воля, н-р 173*

# З мінулага тыдня

**Хельсінскі фонд правоў чалавека** па просьбе беларускага Хельсінскага камітэта арганізаваў у Варшаве трохдзённы семінар для 30 прадстаўнікоў пазаўрадавых арганізацый і прафсаюзаў з Рэспублікі Беларусь. Мэтай абучэння было азнаямленне з тэхнікамі барацьбы, якія дазваляюць без прымянення насілля змагацца за правы чалавека і дэмакратыю. Вопытам з беларускімі калегамі дзяліліся дзеячы „Салідарнасці". „Перш за ўсё трэба малымі крокамі перамагаць у грамадстве страх, каб людзі актыўна ўключыліся ў барацьбу супраць рэжыму", — сказаў **Марэк Навіцкі** з Хельсінскага фонду. Паводле беларускіх незалежных дзеячаў, беларускае грамадства баіцца голаду і страты працы. „Усе, ад рабочага да прафесара, займаюцца вырошчваннем гародніны на прысядзібных участках, каб было што есці. З пустым страўнікам і такімі ж кішэнямі цяжка думаць пра тое, як змагацца за правы чалавека. Калі мы гэтага не зробім, у Беларусі будзе штораз горш", — сказаў **Юрась Карманаў**, прафсаюзны дзеяч з Менска.

**Архітэктура Беласточчыны ў малюнках Уладзіслава Петрука** — так называецца выстава, якая адкрылася 21 кастрычніка ў кавярні „Фама" ў Беластоку. Прэзентаваныя малюнкі паходзяць з калекцыі аўтара (колішняга супрацоўніка нашай рэдакцыі) і фондаў Ваяводскай публічнай бібліятэкі. Выстава будзе адкрыта да 10 лістапада г.г.

**Беластоцкае тэлебачанне** атрымала новы транслятар, цераз які перадачы ў недалёкім будучым будуць трансляваца па 35 канале. Дзякуючы гэтаму ўзрасце колькасць праграм і павялічыцца тэлеэфірны час. Кіраўніцтва беластоцкага тэлецэнтра прадугледжвае чарговыя эмісіі лакальных навін, гістарычныя праграмы, каталіцкі і праваслаўны блокі, новыя гаспадарчыя і публіцыстычныя перадачы. Апрача гэтага TV Беласток будзе трансляваць свае праграмы па II праграме агульнапольскага тэлебачання. Перашкодай у ажыццяўленні гэтых планаў можа стаць фінансавая палітыка TVP SA. Цяпер пачала яна ўводзіць „эканомны пакет", што ў першую чаргу адаб'ецца на фінансах рэгіянальных тэлецэнтраў.

**73 чужаземцаў** атрымалі ў гэтым годзе дазвол на працаўладкаванне ў Беластоцкім ваяводстве. Найбольшую групу — 25 чалавек — складаюць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія найчасцей працуюць у нас настаўнікамі, трэнерамі, мастакамі. Астатнія — гэта армяне, расіяне, украінцы, літоўцы, амерыканцы, в'етнамцы, іранцы, індусы, а таксама немец, балгар, аўстрыец, мараканец, канадзец, ізраільцянін і сірыец.

**Жыхары Беласточчыны** карыстаюцца 150 тысячамі тэлефонаў. Да канца года сувязісты паставяць тэлефонныя апараты яшчэ пяцю тысячам абанентаў. Беластоцкае ваяводства займае пятае месца ў краіне па колькасці тэлефонаў на душу (20,24 на 100 чалавек). Сам Беласток, супольна з Варшавай і Ольштынам, апынуўся ў ліку абсалютных лідэраў, якія вылучаюцца самай шчыльнай тэлефоннай сеткай (32,1 апарата на 100 асоб).

**296 спраў** па крадзяжах аўтамабіляў узбудзіла паліцыя за дзевяць месяцаў гэтага года. Агулам у вышуку знаходзіцца 500 машын. З аўтастаянак і гаражоў прапала 180 іншамарак („Аўдзі", „Фольксвагены", „Мерседэсы" і „Лады"), якія найчасцей перапраўляюцца кантрабандай за паўднёвую і ўсходнюю мяжу. Дзве траціны ўсіх крадзяжоў было ўчыненых у самім Беластоку. Паліцыі ўдаецца знайсці толькі кожны шосты ўкрадзены самаход.

# Вesткі з Беларусі

### Журналісцкая дэманстрацыя

У сувязі з прыняццём Нацыянальнай палатай змяненняў да закона аб друку, якія абмяжоўваюць правы журналістаў і выдаўцоў, у Менску была праведзена акцыя пратэсту. Мітынг арганізавалі журналісты незалежных СМІ, якія сабраліся перад Домам друку ў Менску, адкуль з транспарантам „Свабоду слова на Беларусь!" прайшлі да парку Купалы. На мітынгу перад тысячнай публікай выступіў м.інш. дырэктар беларускага бюро ОРТ Павел Шарамет, які два тыдні таму быў вызвалены з гродзенскага следчага ізалятара.

### Польска-беларускае добрасуседства

У Менску прайшоў польска-беларускі семінар „Добрасуседства '97", прысвечаны пытанням гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. Польскую дэлегацыю, якую складалі прадстаўнікі больш як 70 фірмаў, узначальвалі віцэ-міністры эканомікі Ян Халадай і сельскай гаспадаркі Рышард Каладзей. З беларускага боку ўдзел у нарадзе прынялі прадстаўнікі 140 прадпрыемстваў розных форм уласнасці. У ходзе семінара ўдзельнікі абмяняліся думкамі наконт перспектыў паглыблення гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва і абмеркавалі шляхі павелічэння тавараабароту. У рабоце семінара прынялі ўдзел пасол Польшчы ў Менску Эва Спыхальска і пасол Беларусі ў Варшаве Віктар Бурскі.

### Юбілей Гродзенскага драмтэатра

16 і 17 кастрычніка ў Гродзенскім абласным драматычным тэатры праходзіла міжнародная навукова-творчая канферэнцыя „Сучасная беларуская рэжысура: пошукі мастацкай своеасаблівасці". У канферэнцыі прымалі ўдзел рэжысёры, тэатразнаўцы, крытыкі і вучоныя з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы і Польшчы. Мерапрыемства было прымеркавана да святкаванняў 50-годдзя тэатра. 19 кастрычніка свой 51 сезон драмтэатр адкрыў прэм'ерай спектакля „Чалавечая жанчына" паводле п'есы Максіма Горкага „Васа Жалязнова".

### Гродзенскія фотавыставы

Адразу некалькі фотавыставак наладжана ў Гродне. У Доме тэхнічнай творчасці навучэнцаў можна ўбачыць серыю работ, прысвечаных 25-годдзю Фотаклуба „Гродна". Тут жа размясцілася экспазіцыя пад назвай „Вытокі", аўтарам якой з'яўляецца фотарэпарцёр БелТА Яўген Казюля. Наведвальнікі Новага Замка ўбачаць выставу работ удзельнікаў міжнароднага фотапленэру „Гродна '97". У галерэю „Антоні Тызенгаўз" запрашае на агляд экспазіцыі польскі фотамастак Генрык Рагазінскі з Беластока.

### Лідскія часопісы

Першы нумар краязнаўчага часопіса „Лідскі летапісец" выйшаў у свет у другім па велічыні горадзе Гродзеншчыны. Яго матэрыялы расказваюць пра гісторыю горада, пра ўдзел беларусаў, у тым ліку лідчанаў, у Айчыннай вайне 1812 года і ў II сусветнай вайне. Ёсць тут звесткі пра польскага літаратара Земавіта Фэдэцкага, ураджэнца Лідчыны. Часопіс будзе выдавацца штомесяц мясцовым Таварыствам беларускай мовы. Раней у Лідзе пачаў выходзіць краязнаўчы часопіс на польскай мове „Ziemia Lidska". Яго заснавальнік — мясцовае Таварыства польскай культуры.

### Узнагарода за міласэрнасць

Вядомы беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч Уладзімір Ліпскі стаў адным з першых кавалераў Ордэна святога благавернага царэвіча Дзмітрыя Маскоўскага і Угліцкага за дзейнасць у галіне міласэрнасці. Ордэн заснаваны быў Маскоўскім патрыярхатам і Расейскім дзіцячым фондам. Аўтар больш як трыццаці папулярных кніг, галоўны рэдактар часопіса „Вясёлка" і шматгадовы кіраўнік Беларускага дзіцячага фонду атрымаў яго з рук патрыярха Алексія II.

### Менская эканамічная зона

Распрацаваны праект свабоднай эканамічнай зоны Менск. Яна размесціцца побач з горадам на плошчы 1 400 гектараў. У састаў зоны ўвойдуць буйны прамысловы вузел „Шабаны", міжнародны аэрапорт Менск-2 і беларуска-амерыканскае сумеснае прадпрыемства „Форд-Юніён". Тэлеаўтамагістраллю Масква-Берлін плануецца пабудаваць мытныя склады, аптовыя базы і прадпрыемствы па абслугоўванні транзітных перавозак паміж Усходам і Захадам.


## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Лісты Міхася Забэйды-Суміцкага да Максіма Танка.**
- **Скандальны юбілей** — пра сотую гадавіну чыгункі ў Белавежы піша Пётр Байко.
- **Як у мінулым адзначалі гадавіну „вялікага кастрычніка".**

# Простая і тутэйшая гміна

Ганна Кандрацюк

З Беластока ў Шудзялава гадзіна язды на аўтобусе. З Паўночным Вострававам мінаем аблезлыя будынкі былога саўгаса. Далей сустракае вас вежа касцёла. Захопленыя яе небакліч-насцю падумаеце пра лясны манастыр, месца божага цуду.

З'язджаем з гары...

Разам і нашыя першыя ўражанні. Перад вачыма касцёл у стылі прывіслянскай готыкі. Унізе даліна з цеснымі панадворкамі і вялікімі драўлянымі гумнамі.

Аўтобус спыняецца ў „Вёсцы". Так у Шудзялаве завуць гістарычную частку мясціны. Яе пачаткі сягаюць сярэднявякоўя. Паводле даследчыка Валяр'яна Буйноўскага, найперш жылі тут яцвягі. Ад іх пайшла назва пасёлка і значыць яна „зямля яцвягаў". Сучасныя жыхары „Вёскі" — нашчадкі ці пераможцы яцвягаў, ведаюць беларускую мову. Яна для іх і „простая", і „тутэйшая". Яе ранг таксама простыі тутэйшы. Па-беларуску добра пагаварыць пра сельскія ці бытавыя справы і найлепш з аўтахтонамі-аднавяскоўцамі або самому з сабой.

„Вёска", як падказвае назва, жыве з сельскай гаспадаркі. У кастрычніцкі будзень кожны заняты тут сваёй справай. На вуліцы зрэдку сустрэнеце вяскоўца, хутчэй за ўсё будзе гэта беспрацоўны экс-саўгаснік.

**Лукашэнка харошы мужык**

У старусенькіх мужыкоў, што чакаюць аўтобуса ў Юраўляны, пытаю пра маршруты „пэкаэсу". У руках аднаго дзядулі рэкламная сумка з надпісам „Мінск". Выгляд старэч спадабаўся б этнографу. Паморшчаныя непабрытыя твары, світкі з часоў маладосці, бяззубыя раты, гумоўцы на нагах.

— Паненка то хіба з Расеі? — дзівуюцца маёй беларускай мове.

— Ваш прэзідэнт Лукашэнка харошы мужык!

Дзядкі-грыбкі хваляць прэзідэнта, а я не ўспамінаю пра Беласток. Згані такім людзям пра Беласток, адразу займае ім беларускую мову. А так нагода пачуць чысценькую беларушчыну.

— Я за савета беларускай мовы вучылася. Я ведаю Янку Купалу, — кажа ўзрушаная цётка, паклікаючы маімі дзядулямі на дапамогу. Усе трое пераймаюцца маёй праблемай. З усяе сілы хочуць дапамагчы, мне, *беларусцы з Расеі.*

— Каб тых жулікаў воўк з'еў, — абураюцца на вандалаў, што знішчылі аўтобусны прыпынак.

**Абы на яду хапіла**

І ў гміне хочуць з усёй сілы дапамагчы. Мілая жанчына, да якой урадніку звяртаюцца "pani Irenko", частуе моцнай кавай. Напой дапамагае адагнаць усюдыпрысутную дрымоту. Поўдзень. У гміннай управе пустэча. Непрысутны таксама Часлаў Беткал, войт. У гміне амаль нічога не дзееца. Чую толькі пра дзве пабудовы — адміністрацыйнага будынка Гміннай управы і школы ў Бабіках. Цягнуцца яны марудна з-за безграшоўя. А пра гаспадарку? Жыхары гміны ў пераважнай колькасці — земляробы. Раней дзейнічаў моцны саўгас — ПГР Крынкі, другі ў краіне. Абакрнуцца ён у пачатку дзевяностых. Праўда і зараз там дзейнічае суполка „Agropol". Працуе ў ёй групка маладых, моцных мужчын. Многія экс-саўгаснікі пайшлі ў лес. Ці то дрыбасекамі, ці ляснымі работнікамі сталі. Найгорш жанчынам. Нідзе для іх няма працы. Безупынна ідуць да *спалэчнай апекі.*

— I nie ma jak uciec z tej dziury. Kto mi dziś da mieszkanie? — наракаюць.

Былыя саўгаснікі жывуць у квартале „Аседле". Узнікла яно ў васьмідзесятыя гады, каб прыманіць новых рабочых для ПГРа.

— I z całej Polski jechali tu ludzie. Pańistwo szalone pieniądze inwestowało, — успамінаюць, як казку, шчаслівыя гады.

„Аседле" — гэта восем блёкаў. Тут не разумеюць „простай" тутэйшай мовы. Хіба што нехта з мясцовых у блёк пасяліўся.

— У Шудзялаве пяць прадуктовых крамаў. За прамысловымі таварамі трэба ехаць у Крынкі або Саколку. У Беласток задалёка. Дарога замнога каштуе. Драбніцу — як шкарпэткі, майткі, хатні абутак дастанеце ў кіёску.

— Абы на яду хапіла, — чую беларускі экзістэнцыяльны мінімалізм.

У цэлай гміне (42 вёскі) дарэмна шукаць рэстарана, цэнтра турыстычнага абслугоўвання, агратурызму. Наведальнік разлічвае толькі на добрых людзей.

**Хопіць памянаць веравызнанне**

Шудзялава — сёння каталіцкая мясціна. У гміне пражываюць таксама праваслаўныя. Ёсць і дзве царкоўкі — у Вярхлессі і Самагрудзе. Насельніцтва гміны вызначае сваю нацыянальную прыналежнасць паводле веравызнання. Католік — паляк, праваслаўны — беларус. Хопіць перайсці з праваслаўя ў каталіцтва і ўжо ты паляк. Такая сярэднявяковая залежнасць выклікана змаганнем за душы тутэйшых, простых людзей. Напрыклад, у Шудзялаве веравызнанне часта мяняла свой воблік. Ксёндз Мечыслаў Стапчынскі ў манаграфіі, напісанай у 1947—49 гг. „Szudziałowo — kościoł i parafia" піша пра першы касцёл, пабудаваны ў 1601 годзе як філіяльны храм парафіі ў Саколцы. Пазней узнесены ў 1643 годзе драўляны касцёл Святой Багародзіцы. Аўтар манаграфіі адзначае, што ад 1774 года ў Шудзялаве служыць святар грэчаска-ўсходняй царквы, Рыгор Ванькові ч. Храм завершаны купалам з драўляным крыжам. Пасля студзеньскага

[працяг ☞ 10]

# Шырокая сцяна

Магло б здавацца, што названне „Усходняя сцяна" кранае толькі тыя нашы мясцовасці і гміны, якія блізка прымыкаюць да дзяржаўнай усходняй мяжы. Аднак і далей на захад ад іх адбываецца эрозія вёсак, з якіх вітальныя сокі высмоктвае „вялікі горад Беласток". Наведаў я вёскі аддаленыя ад мяжы на больш чым пяцьдзесят кіламетраў і нічога адметнага ў іх не пабачыў. Як і ўсюды, так і там дажываюць свой век адно пенсіянеры. Мала дзе відаць сляды гаспадарання, большасць панадворкаў зарастае травою, а ў брамках да іх зарастаюць сляды па людзях, якія іх некалі ставілі і даглядалі.

У Дарожках — вёсцы невялікай — стаіць ужо шэсць пустых хатаў, а ў далейшых шасці жыве толькі па адным чалавеку. На цэлую вёску ёсць толькі адзін сапраўдны гаспадар, які абрабляе каля трыццаці гектараў і трымае каля дваццаці штук быдла, у іх ліку дванаццаць дойных кароў. У вёсцы толькі пяцёра дзяцей-школьнікаў.

У *Чэруоўках* шасцёра такіх дзяцей на шэсцьдзесят душ ва ўсёй вёсцы. Тры хаты стаяць пустыя, абрабляецца толькі пяць гаспадарак — трымаюць кароў, а малако ад іх возяць аж у Лешно, бо там больш плацяць чым у суседніх Дарожках. У вёсцы дзесяць трактароў і дзесяць коней. У будынках колішняй школы размясціўся дом для састарэлых. Дзяцей тут усяго шасцёра. Дзевак, як і ў кожнай нашай вёсцы, няма, затое ёсць пяць старых кавалераў.

У Кажанах такіх *коловачуоў* — два, а ўсіх душ каля трыццаці. У школу ходзяць пяцёра дзяцей, з якіх трое — больш за палову — бацюшкавых. Толькі два гаспадары абрабляюць поле; у іх трактар, снапавязалка, цюкарка. Адзін трымае каля пятнаццаці кароў. У вёсцы дзесяць коней і чатыры трактары.

Толькі па святах ажываюць вёскі: гарадскія выхадцы са сваімі сем'ямі прыязджаюць на бацькаўшчыну дыхнуць чыстым прынарваўскім паветрам.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# І ў Чаромсе ёсць праблема

Незадоўга наступіць зіма і пачнуцца штодзённыя клопаты для многіх мясцовых самаўрадаў і школ. Некаторым устано вам гэтыя клопаты пачаліся з пачаткам навучальнага года. Незакончаныя рамонты школьных залаў, праблемы з ацяпленнем і давозам дзяцей у школу, недахоп сродкаў у гмінных бюджэтах...

А як справа маецца ў Чаромсе? Паспрабуйма прыгледзецца будням мясцовай школы.

З пачаткам сёлетняга навучальнага года ў чаромхаўскай пачатковай школе пачало вучыцца 496 вучняў, у тым ліку 18 дзетак у класах 1—3 у філіяле ў вёсцы Чаромха.

Для рэалізацыі праграмы навучання ў бягучым годзе школа атрымала 32 поўныя штаты і 5 паўштатаў для настаўнікаў. Гэтыя апошнія тычацца настаўнікаў закону Божага.

Чарамхоўскія настаўнікі перад навучальным годам рашылі на сходзе, якімі падручнікамі будуць карыстацца вучні іхняй школы і заказалі патрэбную колькасць экземпляраў. Бацькі і вучні не мелі праблемы з іх набыццём.

— Мы не аддавалі перавагу навінкам, падбіраючы падручнікі, — гаворыць дырэктар школы Мікалай Міхалюк, — а выбралі такія, у якіх змест здаваўся быць латвейшым для вучняў.

Зараз у Чаромсе вучні маюць магчымасць вывучаць чатыры замежныя мовы: рускую, беларускую, украінскую і англійскую. Паколькі тры першыя не карыстаюцца большым зацікаўленнем, настолькі англійская мова, хоць навучанне пачалося ўпершыню, прыцягнула рэкордную колькасць вучняў. На агульны лік 60 вучняў пятых класаў 52 асобы пачало яе вучыць.

Навучанне закону Божага ў чаромхаўскай школе праводзіцца два разы на тыдзень. І хоць прадмет з'яўляецца неабавязковым, усе вучні прысутнічаюць на ўроках, бо так пажадалі бацькі.

— Скажыце, калі ласка, — звяртаюся да дырэктара М. Міхалюка, — як справа маецца з давозам дзяцей у школу?

— Для нас праблема не існуе, — адказвае мой суразмоўца. — Дзеці з трох адлеглых вёсак: Баброўкі, Янцэвічаў і Зубачоў (па дарозе таксама Бэрэзышчаў) карыстаюцца рэйсавымі аўтобуснымі лініямі сямяцікага ПКС. Адтуль даязджаюць 23 вучні. За месячныя білеты грошы вяртае гміна. Апрача таго гміна давозіць уласным аўтобусам і аўтамабілем „Жук". Як папсуецца аўтобус, дзяцей з Вулькі-Тэрахоўскай і Апакі давозяць „Жукам".

Гмінным транспартам даязджаюць пяцёра дзецюкоў з вёскі Чаромхі, якія ходзяць у нулявы клас (спецыяльны маршрут).

— Многа гаворыцца ў сродках масавай інфармацыі, што ў некаторых школах дзеці прыходзяць на занятkі галоднымі і не хапае ім на бутэрброды. Ці ў вас нешта такое здараецца?

— Падкормліваннем карыстаецца ў нашай школе 180—190 вучняў. Практычна гэта абазначае, што хто толькі падасць прашэнне, яму не адмаўляем. 16 вучняў карыстаецца бясплатным харчаваннем. За іх плаціць гмінны асяродак грамадскай дапамогі.

Кошт аднаго абеду складае недзе каля 1,50 зл. (у мінулым годзе — 1,30 зл.). Калі няма павышэння цэнаў мяса і мясных вырабаў, мы таксама трымаемся нормы.

Многія вучні карыстаюцца нашай школьнай крамай. Цэны тут не вышэйшыя за тыя, якія абавязваюць у крамах пасёлка (на 5 гр. меншыя). Аб папулярнасці школьнай крамы сведчыць факт, што за верасень (першы месяц вучобы) дала яна прыбытак каля 300 зл. Грошы гэтыя прызначаем на патрэбы школьнага самаўрада.

— Як вы бачыце справу выхавання моладзі ў школе?

— На маю думку, выхаваннем павінны займацца бацькі ў хаце. Школа гэтым можа займацца толькі дадаткова. Зараз мы не маем права накідаць вучням нормаў і стылю вопраткі. Мы ідзем за стылем заходніх краін. А бацькі нешта могуць сказаць сваім дзецям на тую тэму. Хачу прытым адзначыць, што сярод нашых вучняў толькі чатыры асобы (тры з сёмых класаў, і адзін з восьмага) можна залічыць да „цяжкіх". Гэтыя адзінкі ўжо выйшлі з-пад бацькоўскага кантролю.

— Слухаючы вышэйсказанага здаецца, што ў вашай школе няма праблемаў. Ці так сапраўды ёсць?

— Нашым найбольшым клопатам з'яўляецца недахоп месца для вядзення заняткаў па фізкультуры. Наша спартыўная зала аказалася замалая. У сувязі з загадам міністра нацыянальнай адукацыі аб увелічэнні гадзін фізкультуры да 2000 года да пяці ўрокаў у тыдзень, нам практычна адной залы хапае толькі для правядзення паловы заняткаў, значыцца на 50 гадзін. Другую палову мы вымушаны праводзіць пад адкрытым небам. Аб пабудове дадатковай спартыўнай залы гміна пакуль што не думае, паколькі неабходнай інвестыцыяй для мясцовага самаўрада з'яўляецца разбудова адміністрацыйнага будынка гміны.

Не ўсё жыццё пасланае ружамі, — гаворыцца ў народзе. Тое ж самае можна сказаць і пра чаромхаўскую школу. Хоць, здаецца, для настаўнікаў няма ніякіх праблемаў, аднак гэты адзіны са спартыўнай залай не дае ім спакою.

**Уладзімір Сідарук**

# Ад імя рабочых і сялян

У гэтым годзе мінае 80 гадоў з таго часу, калі бальшавікі захапілі ўладу і пачалі найдаўжэйшы ў гісторыі грамадска-эканамічны эксперымент. Прадаўжаюць яго яшчэ камуністы Паўночнай Карэі, Кубы, сумуюць па ім у Беларусі, Расіі, на Украіне.

„Ніва" доўгімі гадамі пастаянна адзначала гадавіну „вялікага кастрычніка". Хочам вярнуцца да гэтай традыцыі, асабліва таму, што набліжаецца круглая гадавіна гэтай падзеі, а на Беласточчыне жыве шмат прыхільнікаў „улады рабочых і сялян".

Амаль дзвесце гадоў раней рэвалюцыю і радыкальнае пераўтварэнне заканадаўства краіны правялі ў сябе французскія бальшавікі, якіх там называлі якабінцамі. Французскія рамантыкі не закранлі аднак у сваёй творчасці справы ўласнасці, а пасля пару гадоў шаленства самі трапілі на эшафот, які некалькі гадоў служыў ім галоўным інструментам станаўлення права. Эксперымент гэты вярнуў, аднак, Францыю на пару дзесяткаў гадоў назад у працэсе цывілізацыйнага развіцця краіны.

У Расіі рэвалюцыя пачалася ў лютым 1917 г. пад лозунгамі свабоды, дэмакратыі, традыцыйна, хлеба для найбяднейшых. Усё наступіла маланкава і без разліву крыві. Цар Мікалай аддаў уладу, а ў ліпені 1917 г. уладу цывілізаванымі метадамі перанялі сацыялісты на чале з Аляксандрам Керанскім. Расія была на шляху да дэмакратыі, а яе гаспадарка ад дзесяткаў гадоў развівалася ў адным з найвышэйшых тэмпаў у свеце. Ведалі аб гэтым немцы, якіх гаспадарцы найбольш пагражала б расейская канкурэнцыя. Калі восенню 1917 года везлі яны ў Петраград свайго агента Уладзіміра Ульянава (Леніна), разлічвалі, што яго дыверсійная дзейнасць будзе толькі аслабляць Расію, так як раней рабіў гэта Грышка Распуцін. Ніхто не думаў, што Ленін стане пракорам новай рэлігіі, якая неўзабаве набудзе амбіцыю ахапіць увесь свет і пацягне за сабою мільёны чалавечых ахвяр.

Камуністы прывярнулі ў Расіі найболыш жорсткія прыкметы феадальнага права. Сялянам забралі ўласнасць зямлі і амаль усе грамадзянскія і чалавечыя правы, якія яны атрымалі за апошнія дзесяцігоддзі панавання Раманавых. Рабочых выкарысталі яны ў якасці запасу баевікоў у карных атрадах супраць сялян. Знішчылі інтэлектуальную эліту і ўстанавілі ўладу мафійнага характару.

Расейскія гісторыкі пішуць, што бальшавіцкі эксперымент каштаваў Расію жыццё звыш сарака мільёнаў людзей. Знішчаныя прырода і гаспадарка будуць патрабаваць — як пішуць заходнія эксперты — каля пяцідзесяці гадоў, каб давесці іх да нейкай нормы. Але найгоршыя страты наступілі ў сферы маральнасці і культуры савецкага грамадства. Канцлагеры, страх, бяскарнасць злачынцаў на дзяржаўнай службе, татальная хлусня і жыццё па загадзе партыйных чыноўнікаў — гэта фактары, якія дзесяткамі гадоў фарміравалі чалавека, які не надта ведае як жыць у свеце, дзе самому трэба вырашаць што з'яўляецца дабром, а што злом.

Фашызм, які трываў карацей чым камунізм, дачакаўся не толькі маральнага асуджэння. Галоўным злачынцам зачыталі спісак іх зверстваў і выдалі адпаведныя прыгаворы. Тыя, што стралялі невінаватым людзям у патыліцы ў Курапатах і тысячах іншых месцах масавых расстрэлаў, ходзяць цяпер па вуліцах Масквы, Мінска, Кіева з медалямі на грудзях як ветэраны сацыялістычнай працы. Пакуль не адбудзецца прынамсі маральны суд над злачынствамі камунізму, не пачнецца працэс аздараўлення постсавецкага грамадства. Такое асуджэнне патрэбнае перш за ўсё дзеля памяці мільёнаў выпадковых, невінаватых ахвяр бальшавіцкага шаленства.

**Яўген Міранович**

# Спявала „Тутэйшая шляхта"

На Гайнаўшчыне і Бельшчыне ў днях 17-20 кастрычніка некалькі канцэртаў даў калектыў „Тутэйшая шляхта" з Менска. Выступаў ён у школе ў Новым Корніне, у Плёсках, перад вучнямі Пачатковай школы н-р 3 і Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Б. Тарашкевіча з Бельска, перад бяльшчанамі і гайнаўлянамі ў Бельскім і Гайнаўскім дамах культуры. Запрасілі яго, менавіта, дырэктары гэтых устаноў: Сяргей Лукашук і Мікалай Бушко.

— Шляхта, гэта нешта высакароднае, адборнае, — тлумачыў назву калектыву фалькларыст і музыка Васіль Ліцвінка, — а „тутэйшая", значыць, не польская, не нейкая чужая, а свая, беларуская.

„Шляхетнасць" калектыву заключаецца не ў блакітнай крыві яго членаў, а ў іншага роду элітарнасці. Гэта, бадай, найбольш адукаваны музычны калектыў, прычым не толькі ў Беларусі. Спяваюць і граюць у ім кандыдаты і дактары навук, дацэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Каб было цікавей, навуковыя ступені ў іх не па музыцы, а па матэматыцы, фізіцы, хіміі. Тым не менш, у музыцы яны таксама не аматары.

Гэты невялікі калектыў у дзесяць чалавек — пад кіраўніцтвам Лявона Махнача — карыстаецца традыцыйным наборам інструментаў: цымбалы, скрыпка, гармонік, баян, флейта, бубен, тамбурын. Добра перадаюць яны характар беларускага фальклору — асноўнага рэпертуару калектыву.

Багацце рэпертуару, віртуознасць інструменталістаў, моцныя і зладжаныя галасы, гэта характэрныя адзнакі менскага калектыву „Тутэйшая шляхта". Калі ў вас была магчымасць пайсці на канцэрт і вы не пакарысталіся ёю, шкадуйце.

**М. В.**

# Вострая перадз'ездаўская дыскусія

— Наша Таварыства ў такой форме, у якой дзейнічае, ужо перажываецца і мы гурткоў не адродзім. Калі хто возьме статут арганізацыі, дык скажа, што няма гурткоў і іх дзейнасці, — сказаў старшыня рэвізійнай камісіі Гайнаўскага аддзела БГКТ Ян Хіліманюк.

19 кастрычніка 1997 года ў Гайнаўскім музеі адбываліся справаздачна-выбарчыя канферэнцыі гарадскога і раённага аддзелаў перад XIII з'ездам БГКТ, які запланаваны на 30 лістапада.

**Праблемы горада**

Канферэнцыя гарадскога аддзела працягвалася толькі адну гадзіну, паколькі сабраліся дэлегаты, якія мелі стварыць новую структуру — раённы аддзел. Міхал Голуб — старшыня гарадскога гуртка паведаміў пра дзейнасць за апошнія чатыры гады (фэсты, агляды песень, конкурсы, навагоднія гульні і праца пры пабудове музея). Былі і словы самакрытыкі, як з боку старшыні Голуба, так і з боку старшыні рэвізійнай камісіі Яна Хіліманюка:

— Складчыны збіраюцца выпадкова і нельга сказаць хто ў нас дзейнічае. Калі не зможам прыцягнуць да дзейнасці моладзь, наша Таварыства памрэ. Трэба прыняць форму федэрацыі, у якую ўвайшлі б розныя адзінкі, нават і калектывы.

Дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя звярнуў увагу на заганы ў рэкрутацыі вучняў у вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі, абвінавачваючы Галоўнае праўленне ў дрэннай арганізацыі набору. Падкрэсліў, што рэкрутацыя вучняў польскіх ліцэяў Гайнаўкі і Бельска без экзаменаў па беларускай мове — гэта яўная праца супраць беларускіх ліцэяў.

Пасля адабрэння працы гарадскога аддзела, дыскусія была спынена.

**Стварэнне раённага аддзела**

Выявілася, што Галоўнае праўленне прыняло пастанову аб ліквідацыі гмінных аддзелаў і стварэнні двухступеннай сістэмы (раёны і галоўнае праўленне). Гайнаўляне былі здзіўлены, што без іх згоды хочуць ліквідаваць гурток (задумваліся, якая гэта стратэгія перад з'ездам). Аднак не падпарадкаваліся пастановам зверху і вырашылі, што дакончаць пасяджэнне гарадскога гуртка пазней, а яго дзейнасці не спыняць. Сустрэча прадаўжалася надалей, але дэлегатаў было ўжо больш (дайшлі прадстаўнікі раёна). Спатканне гарадскога гуртка пераўтварылася ў працу раённага аддзела. Да вядучага Аляксандра Іванюка і старшыні Міхала Голуба дасеў пасол Ян Сычэўскі.

**Крытыка набору студэнтаў**

Узяўшы голас, старшыня Галоўнага праўлення Ян Сычэўскі не пашкадаваў пахвалаў гайнаўлянам за актыўнасць і паведаміў пра магчымасці кадравага зруху ў музеі (будзе дзяржаўны музей — будуць штаты). Пасля кароткага ўступу, знерваваны крытыкай з боку настаўнікаў, узяўся за Гайнаўскі ліцэй, абвінавачваючы, што высылае на Беларусь слабенькіх вучняў, а пасля перакінуўся з крытыкай на дзяцей заслужаных актывістаў БГКТ. Хаця пасля прасіў прабачэння за свае рэзкія словы, дык абурэння гайнаўлян не спыніў, якія даказвалі, што абвінавачанні з боку пасла Яна Сычэўскага з'яўляюцца беспадстаўнымі. Дэлегаты дамагаліся рабіць набор у студэнты вышэйшых устаноў Беларусі больш яўным і ўвесці прадстаўнікоў ліцэяў у рэкрутацыйную камісію, якой дзейнасць дакладна абумовіць.

**Праблемы Гайнаўшчыны**

Вострую палеміку вопытна спыніў вядучы Аляксандр Іванюк, умела накіраваўшы дыскусію на праблемы гайнаўлян. Пайшла гаворка пра неабходнасць працы з моладдзю, калектывамі, музеем, ліцэем, пра сувязі з самаўпраўай горада, Царквою. Удзельнікі пасяджэння звярталі ўвагу на патрэбу супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі. Пасля бурнай дыскусіі дэлегаты дайшлі да вываду, што неабходным з'яўляецца змена стылю кіравання БГКТ і большая аўтаномія ў раёнах.

**Беларускія СМІ ў вачах БГКТ**

Дыскусія ўзмацнілася, калі сакратар Валянціна Ласкевіч пачала крытыкаваць мас-медыі:

— Беларускія сродкі масавай інфармацыі не робяць нічога або амаль нічога. А ці „Ніву" яшчэ хто чытае?

Адчуванні дэлегатаў былі зусім іншыя. Дырэктар Яўген Сачко сказаў, што ў школу тэлефануюць з тэлебачання, каб даведацца, што адбываецца ў асяроддзі, а „Ніву" чытае многа вучняў. Прадстаўнікі іншых школ таксама пацвердзілі, што ў іх школах чытаюць „Ніву". Настаўніца са школы ў Дашах сказала:

— У Дашах чытаюць „Ніву" ўвесь час, а беларускасць маёй дачкі пачалася з „Парнаса" Яна Морданя.

Былі заўвагі і да радыёвяшчання, што пускае замала песень нашых калектываў, што часта прэзентуюцца творы запісаныя па-аматарску на канцэртах.

**Фінансаванне беларускіх мерапрыемстваў**

Дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікола Бушко абвінаваціў Галоўнае праўленне.

— Вы, ГП БГКТ, накідаецеся, як шапка, на беларускі агляд у Гайнаўцы, а не хапае грошай на бігас. Грошы пайшлі ж у Беласток. Адпіхнулі Морданя, Копу, Лукашука.

Словы крытыкі з вуснаў сакратара Валянціны Ласкевіч пайшлі і ў бок Гайнаўскага дома культуры і яго дырэктара. Делегаты прапанавалі перанесці фінансаванне мерапрыемстваў з Беластока ў Гайнаўку.

**Выбар улад і падсумаванне**

Выбар праўлення Раённага аддзела, Рэвізійнай камісіі і дэлегатаў на з'езд прайшоў вельмі спакойна. Многія дэлегаты з апошняй кадэнцыі адмовіліся ад удзелу ў з'ездзе ў якасці дэлегатаў, а на іх месца паявіліся новыя твары. Камісія пастаноў вылучыла праблемы, якімі павінен займацца аддзел і на якія трэба звярнуць увагу на з'ездзе (усе яны абмяркоўваліся ў час абрадаў). Падсумоўваючы канферэнцыю Аляксандр Іванюк заявіў, што за час сваёй дзейнасці ў БГКТ першы раз сустрэўся з такой крытыкай. Ці гарачая дыскусія будзе і на з'ездзе?

**Аляксей Мароз**

# З'езд БАС

13 кастрычніка 1997 года адбыўся чарговы з'езд Беларускага аб'яднання студэнтаў. Удзел у ім прынялі 32 чалавекі. Мэтай з'езду было ўвядзенне змяненняў у статут і перавыбары улад. Змяненні датычылі тэрміну паўнамоцтваў старшыні, колькасці яго намеснікаў (цяпер будзе адзін), змяншэння ліку членаў Галоўнай рады і Рэвізійнай камісіі.

У выніку перавыбараў старшынёю БАС стаў Юрка Шульскі, а намеснікам старшыні — Міраслаў Пац. У састаў Галоўнай рады ўвайшлі: Пятро Пракопчык, Альжбета Снарская, Лукаш Сцепанюк, Павел Сурыновіч, Барбара Мусюк, Кацярына Баравік і Яраслаў Кэндысь. У Рэвізійную камісію былі выбраны Марк Забродкі, Кацярына Мацкевіч і Збігнеў Місюк.

На з'ездзе закраналіся праблемы, якія хвалююць беларускае студэнцкае асяроддзе. Намечаны быў таксама план мерапрыемстваў на найбліжэйшую будучыню. У далейшым БАС будзе арганізаваць традыцыйныя і вядомыя студэнтам ды шырокаму колу прыхільнікаў „Басовішча" і „Атрасіны".

**(юш)**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 454

Рэдактар: Сакрат Яновіч

Тамара Болдак-Яноўска

* * *

Я —
беларуска. Нашу надта шляхетнае
татарскае
прозвішча (мой пра...дзед храбра змагаўся
супольна з Сабескім). Іншы пра...дзед
быў немцам.
Адна з пра...бабак свабодна карысталася
ідыш.
Пішу па-польску. Чытанне па-беларуску
дае мне вялікую асалоду.
Я — полька!
Малюся ў царкве. Аднойчы
у каталіцкім саборы
нешта шавяльнула
кветкамі. Кот! Ніякі там д'ябал.
Тая зялёнавокая,
чорнавалосая і маленькая палёгка
гэта мой заўсёдны пашпарт
у Ватыкан.
Мой муж напаўпаляк, напаўнемец.
Ага. І яшчэ вось што: маё імя грузінскае.
Усё гэта робіць,
што пачуваю сябе сама меней
Усім Паўночным Паўшар'ем Зямлі.
Так. так. Ды гэта і мучыць.

*Пераклаў з польскай Ян Чыквін*

Уладзімір Гайдук

* * *

Мой лёс —
Белы мой анёл.
А ночы —
Чорная смерць
Штораз часцей з гадамі,
Як цень, за мной ідзе.

Я ў пошуках жыву
Стамлёны,
З года ў год
Перасяваю сум
І думак горкіх рой.

Яшчэ хвілінку,
Міг
Мне падары, жыццё,
Наперад дай хоць крок ступіць.
Ты — белы мой анёл.

*(Са зборніка „Пах аернага хлеба")*

Алесь Разанаў

**Pułapki**

Żeby się nie bać chodzić do lasu, ludzie z mojej wsi pozastawiali w lesie rozmaite pułapki: na lisa, na rysia, na wilka, na dzika, na niedźwiedzia ...

Poszedł Szymon popatrzeć, co wpadło w jego samołowy — wpadł w czyjś sam,
poszedł Taras popatrzeć, co wpadło w jego sidła — sam zaplątał się w czyjeś,
poszedł Dominik popatrzeć, co wpadło w jego jamy — poszedł jakby pod ziemię się zapadł.

I zaczęli ludzie jeszcze bardziej bać się lasu:
pełno tam rysi,
pełno tam lisów,
niedźwiedzi,
wilków
i — pułapek.

*Пераклаў Алег Латышонак (Зборнік „Zdobywcy")*

Тамара Балдак-Яноўская

# Пытанне Даменіка

Дамінік Цыянчык усё думаў і думаў. Ён не знаходзіў адказу на наступнае пытанне: як гэта разумець, што даволі прашаптаць слова „Бог" і адразу відаць, як усенька наўкола боскае. А даволі прашаптаць слова „свет" і адразу засумняваешся, ці сапраўды існуе Бог, бо цэлы гэты свет як свет светам цесны якісьці, найперш кажучы, а па-другое, нізкі надта, і па-трэцяе, поўны злачыннай поскудзі. І ўсюды смерць са смерцю. І брыда адна.

Як жа так? Бог стварыў свет — такім? Ну, няхай. А ці свет стварыў Бога, га? Не, іначай скажам. Навукова: ад Бога гледзячы свет існуе, а ў свеце гледзячы Бога няма. А ці не?

От бляха. І на свеце гэтым пекныя пані жывуць. Цела вабнае бабы якраз пад мужчынскую руку падпасаванае, каб мужчына, крануўшы гэтае цела, каб яно, гэтае цела, бы той райскі інструмент — цудна зайграла. І заспявала таксама, і затанцавала. Іграе, спявае, танцуе!

От бляха, ад бабы гледзячы свет існуе. Яшчэ як! Не здыхацца ад таго.

— Або, прыкладам узяўшы, як гэта было з тымі сацыялізмамі ці з камунізмамі. Спачатку ўсе насупоньваліся без смеху.

Пошапт ішоў: рэвалюцыя, рэвалюцыя. А потым усе тыя рагаталі: забаўка, забаўка. Потым жа інтэлігент слёзы ліў: мастацтва спляжылі. А рабацяшчыя яму: я табе пакажу мастацтва! Урад да ўсіх: партыя — партыя — партыя. О як было, о! — злаваўся Дамінік. — О!

— А чаго хацець — суцішаў Дамініка пераважна Ромак Лішка, добры гарэлчын брат. — Чаго хацець, камунізмы як камунізмы, такія яны і былі.

— Былі ці не былі — мучыла Дамініка гэтае пытанне, бы маладога чэснасць маладухі ў першую ноч вяселля. — Няхай. А скажы мне, так ад Бога гледзячы свет існуе сацыялістычным парадкам, хай камуністычным, ці больш капіталістычным? Ці, можа, ні тое і не сёе? А калі б ад сацыялізму гледзячы, хай камунізму, абавязкова няма Бога, Ромак? Добра было б, каб і сацыялізм быў, няхай ужо камунізм, і каб Бог быў. Каму шкодзіць Бог? Нікому, хай быў бы. І з Ватыканам былі б лады. Ну не? Ромак?

— Паслухай мяне, Дамінік: пры камунізмах Бог ёсць, пражывае ў чарцы.

— Што ты пляцеш, Ромак?

— У чарцы, кажу. Чарка ўсім жа добрая. Успомні, як саветы сцябалі яе, гарэліцу. Ад самюткае рэвалюцыі! А чаму сцябалі? Бо да чаркі маліліся. Перад ёю кленчылі. Вось, бывала, пасядаюць — памятаю — за стол яны і дзюбаюць насамі, бы халоп перад іконаю, а пасля і ўстаць не могуць, пад сталом ужо кленчачы... Усёй камуністычны свет піў і запіваў, але ніхто не быў раўня саветам. Так Богам наліваліся бальшавікі. І яшчэ наліваюцца. Хоць і ляснуў камунізм, але разгон застаўся, няма ім жыцця не хліснуўшы...

— Ромак, я не жартую.

— І я не жартую. Пры камунізмах Бог уваходзіць у чалавека праз чарку. П'е, затым плача і божыцца!

— А ў капіталістычных амерыканскіх фільмах не сцябаюць? Ой, каб не.

— Сцябаюць, браток. Але ў іх ад пачатку свету свае таксоўкі, усякія форды і даляры. Яны дзеля даляраў так заліваюцца. Не дзеля Бога. Дзеля даляра здаравей, кажу табе, бо ўсенька розніца паміж камунізмам і капіталізмам у тым, што ў нашай чарцы Бог, а ў іхнай нармальна, як трэба, — сатана!

— Як гэта, нармальна?

— А так гэта: сцябаючы зло наліваешся злом. Калі, аднак, памяркоўна смокчаш, тады канчаецца гэта нават няблага, гумарным шчэбетам.

— А мо і твая праўда, Ромак...

Дамінік дапіў чарку і задумаўся, бы той малады, што цверазеў у першую ноч вяселля. Хай усё было б, нават камунізмы, каб толькі людзям добра было і на Бога грэшна не плявалі. Ватыкан не глядзеў бы тады крыва...

Дамінік нахіліўся да вуха Ромка Лішкі.

— Ведаеш, Ромак, аднаго надалей не цямлю: чаму Бог у сацыялізмах і ў камунізмах абавязкова павінен быць буржуем!?

*Пераклаў С. Яновіч (з кніжкі „Opowiadania naiwne")*

Сакрат Яновіч

# Тры кніжкі, бы тры лёсы

Ляжаць перада мною на стале тры кніжкі: Уладзіміра Гайдука „Пах аернага хлеба", перакладная Алеся Разанава „Zdobywcy", Тамары Балдак-Яноўскай „Opowiadania naiwne". З'яўленне ў свет кожнай з іх адбылося дзякуючы каму іншаму.

Тры кніжкі, бы тры чалавечыя лёсы. Бачу Уладзіміра Гайдука ў ягоным падлесным хутары, блізу разліваў Семяноўскага вадасховішча. Адзінокага і немаладога, так і не збудаваўшага дарэшты свой лёс, хоць і не на неблагой гаспадарцы з мураваным домам. Не паўтарыў бацькоў. На ім, відаць, і закончыцца гісторыя сядзібы.

Хутчэй за ўсё не спадзяваўся ён канца свету сваіх людзей у гэтым старонні, таго, што бацькаўшчына так нічога вартай будзе. А без людзей наўкола як жа жыццё сваё ладзіць?

З па-матчынаму закаханым у зямлю, маладому некалі Уладзіміру Гайдуку пэўна ў галаве не месцілася, што набліжаюцца такія часы, у якія дзяўчына гатова вуліцы ў Гайнаўцы замятаць, каб толькі не ісці замуж на гаспадарку. Так нам, беларусам, помсціць цяпер не столькі калхозны камунізм са сваёй нянавісцю да вёскі, колькі менавіта ўся наша гісторыя, ад якое засталася ў народнай памяці перакананасць у тым, што работа не чыніць чалавека багатым.

Пашанцавала Уладзіміру Гайдуку займець літаратурнага прыяцеля ў асобе выдатнага Яна Чыквіна, такога ж духоўнага выгнанніка з вёскі. Маючы магчымасць паспрыяць самотніку, ён, Чыквін, гэтак жа самотны, дапамагае Гайдуку на літаратурным палетку. Падабенства лёсаў яднае? Пэўна так, але спраўджаецца ў іх сітуацыі ў першую чаргу старажытная мудрасць пракокаў, якія, вось, не бываюць у сваёй айчыне... Яны, абодва, апяваюць сялянскасць як бы супраць волі тых жа сяланаў. Любяць вёску, хоць вёска не любіць іх. Для супакоенасці дадам, што вёска анідзе ў свеце не цэніць і не кахае сваіх кроўных песняроў. Таму так, што ў ёй заўсёды горай, чымсьці ў горадзе-месце. Каму падабаецца горш жыць?

Тамара Балдак-Яноўская з прысвіслацкай нашай Беларусі, з Гарадоцкай гміны, прэзентуе сабою тых, хто даў цягу адсюль у белы свет. Рэалізавала яна свой лёс у адваротным — з Гайдуковым — варыянце. Ці адчувае сябе шчаслівай? Як жанчына і жонка, думаю, напэўна. Але, ці як беларуска недзе ў баку польскай Балтыкі?

У гэтым сваім лёсе знаходзіць Тамара універсальную каштоўнасць. Глядзіць яна на сябе, усё роўна што на мініяцюру будучага свету і чалавецтва, калі асоба не будзе прымушонай да аднае мовы і культуры. Гэта так, гэта так і павінна стацца, але карані свае пры гэтым трэба ж мець; не бывае расліны наогул, расліны без кораня. Нават у тых, што адным цветам цвітуць, у кожнай свой корань. Тамара Балдак-Яноўская занадта інтэлігентная і духоўна глыбокая, каб не ўсведамляць сабе таго з усёй адназначнасцю. Такія індывідуальныя якасці ў нашым беларуска-інтэлігенцкім асяроддзі, на жаль, яшчэ унікальная рэдкасць. Каб не сказаць: інцыдэнтальная. Калісьці, вядома, будзе разумней ды культурней і ў нас. Калісьці, у пакаленне ўнукаў, у псіхіцы якіх ужо не пачуем шолаху саломы, парабкоўскай сабачасці ў позірку не згледзім. Дай Бог, дай.

Алесь Разанаў у нашым тут маленечкім свеце дае нам шанц дакрануцца да чыстае паэзіі. Да самое далікатнай душы літаратуры. Вельмі ж увыклі мы па-бальшавіцку служыць народу, а народу тым часам напляваць на гэту адданасць. Мы ж яму не прэзідэнты, не дырэктары і не бухгалтары хаця б, а пустыя лапатуны. Па роднай мове плачам, ідыёты! Ад страты роднага слова ці хто памёр? Чаго слёзы праліваць? Маеш хлеб і да хлеба, дах над галавою і касцюм на гарбе? Маеш! Дык не дурэй, не дзяры сарочкі ...

Разанаў пісаў бы па-беларуску нават тады, калі б адзін ён толькі застаўся на Зямлі носьбітам беларушчыны. Вялікаму паэту публіка не патрэбная. Ён сам сабе і свет, і вечнасць. Як Бог.

Здзівіла мяне з'яўленне кніжыцы „Zdobywcy". Нават больш ад таго, што перакладаў яе Алег Латышонак. Каб хоць графаман які, а то абсалютны публіцыст з дыпломам доктара гісторыі. Ды слова пра Алеся Разанава напісаў не натхнёны літаратурнік, а Ян Максімюк, як чую, ядзерны фізік. І ў канцы гэтых дзівосаў бачу назвы выдаўцоў, студэнцкі часопіс „Kartki" і найбольш інтэлігентную газету ў Беластоку, „Kurier Poranny" (часткова з нарвежскім капіталам).

Ведаю асабіста Алеся Разанава. Гэта не той чалавек, які ўсюды ўшчыбіцца са сваімі тэкстамі. Ён, як і Валодзя Гайдук, роздумны самотнік. Дапускаю, што і сам ён няхутка даведаўся пра гэты польскі факт з ягонай творчасцю. Факт, створаны польскім беларусам і беларусападобнымі палякамі супольна з тымі чыстапольскімі пры нарвежскім кашальку... Каго тут яшчэ з Еўропы далучыць да гурту праваднікоў Алеся ў Польшчу?

Шлях Алеся Разанава ўсё ж падасца не выбоістым. Бясхмарным у параўнанні з Гайдуковым ці Тамарыным. Але гэта прывід і зман. Ён прыйшоў да нас не з-пад Белавежскай пушчы ці з лугоў каляranічнай Свіслачы, але з Менску, завялікай сталіцы невялікай Беларусі. А горад нам, мужыкам, не ўяўляецца пакутаю. У ім шчасце і ўсё саладосці райскія...

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## „Тутэйшая шляхта” ў Новым Корніне

— Ой, што гэта будзе? Яшчэ ў нашай школе ніколі не было беларускага калектыву! І да таго з Менска! Кажуць, што ў шляхецкіх уборах спевакі выступаюць, — чулася на калідоры школы ў Новым Корніне яшчэ да прыезду артыстаў.

Доўгачаканыя госці — калектыў „Тутэйшая шляхта” — з'явіўся ў час. У святліцы чакалі ўжо дзеткі, моладзь і настаўнікі.

І пачалося...

Голас узяў Васіль Ліцвінка. Не адзін калектыў пазайздросціў бы „Тутэйшай шляхце” такога мастака слова, як сп. Ліцвінка. Ён з першых слоў з'яднаў сабе дзяцей — публіку хіба найбольш крытычную і шчырую.



Васіль Ліцвінка — беларускі вучоны, вядомы фалькларыст. Ён заадно і старшыня Беларускага саюза фалькларыстаў.

У „Тутэйшай шляхце” амаль усе выдатныя вучоныя, — дацэнты, прафесары, кандыдаты навук. Але якія ў іх галасы? На беларускіх народных інструментах таксама іграюць як прафесіяналы. Кіраўніком і заснавальнікам калектыва з'яўляецца Лявон Махнач.

Выступленне „Тутэйшай шляхты” захапіла дзяцей. Асабліва жвавыя танцы і песні як „Антон маладзенькі”, „Полька беларуская”. Найбольш радаваліся наймалодшыя. Яны ўжо з самага пачатку пачалі пляскаць у далоні. Пазней далучылі і старэйшыя школьнікі. Публіка шалела. Радасныя твары дзяцей цешылі настаўнікаў. І яны падключыліся да незабыўнай, гарачай атмасферы канцэрта.

Здаецца, спевакі баяліся выступлення сярод невядомых ім дзяцей. Але было інакш. Яны не толькі адчулі энтузіязм публікі. У канцы сп. Ліцвінка танцаваў разам з дзеткамі.

— Мы хацелі б падзякаваць дырэктару ГДК Мікалаю Бушко і нашай войт Вользе Рыгаровіч, — кажа дырэктар школы Іаанна Алексяюк, — за тое, што падарылі нашым дзеткам незабыўнае свята.

17 кастрычніка 1997 года для многіх напэўна запамятаецца на ўсё жыццё. Сапраўды, трэба павіншаваць арганізатараў з новай ініцыятывай. Канцэрт такі — першакласная рэклама беларускай мовы. І асабліва ў школе, дзе навучаюць роднай мове. Варта падумаць і пра мясцовыя калектывы.

Зорка

*Фота Ганны Кандрацюк*

## Міфы старой Беларусі

**8. Вупар**

Вупар — дэман, мярцвяк, які выходзіць уначы з магілы і душыць ахвяру. Для яго няма перашкод. З труны і магілы выходзіць без цяжкасці. А тым часам яго цела ляжыць у труне з расплюшчанымі вачыма, быццам жывы чалавек.

У вупараў ператвараюцца людзі, якія пры жыцці мелі сувязь з нячыстай сілай. Яны часта заходзяць у хаты былых ворагаў, родных, сяброў. Ёсць два віды вупара: крыважэрны і дабрадушны. Крыважэрны вупар кладзецца на грудзі сваёй ахвяры і з сэрца высмоктвае кроў. У яго востры, як змяінае джала, язык. Вупар запускае язык у грудзі сваёй ахвяры і, дакрануўшы сэрца, смокча кроў. Пасля гэтага астаецца невялічкая ранка. Дэман звычайна душыць сваю ахвяру.

Дабрадушны вупар не забівае людзей. Ім становіцца чалавек, які, паміраючы, чаго-небудзь моцна шкадуе. Бывае, што дэман прыходзіць да жонкі і жыве з ёй як пры жыцці.

Вупар можа ператварацца ў розныя стварэнні. Можа ён таксама ператварыць у любога звера і чалавека. У магілу вяртаецца перад першым пеўнем.

Ахвяры дэмана можна пазнаць па бледным твары. Тады трэба запрасіць дасведчанага знахара, каб даведацца, хто гэты вупар.

Смелы чалавек сам можа злавіць крывасмока. Трэба нанач падрыхтаваць свечку, запаліць яе і схаваць пад пасудзіну. Пасля поўначы, калі звычайна з'яўляецца вупар, як найхутчэй належыць рассвятліць пакой. Дэман не паспее ўцячы і тады пабачыць хто ён. Каб знеахвоціць яго ад хаджэння па жывых, трэба адкрыць труну чараўніка, адсекчы галаву і пакласці яе між ног. Цела неабходна прыбіць да зямлі асінавым калом.

### Трус?

Храбры трус палез на градкі.
Бурачкі рваў, моркву, рэдзьку...
Вось, якія тут парадкі:
Трус — адважны, Рэкс —
пад печкай.

**Міра Лукша**

## Конкурс, конкурс, конкурс!

*(літаратурныя гульні)*

Адкажыце на пытанні. Адказы на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Аўтары правільных рашэнняў могуць выйграць цікавыя беларускія кнігі. Увага, у конкурсе могуць прымаць удзел ліцэісты. Просім таксама адзначыць свой узрост.

1. Назавіце аўтара аповесці „Ладдзя Роспачы”.
2. Дзяцінства і юнацтва якога беларускага пісьменніка прайшло ў сям'і лесніка?
3. Назавіце прынамсі тры літаратурныя творы, у якіх выступае матыў „Пагоні”.
4. У ліпені г.г. у Каліфорніі (ЗША) памерла выдатная беларуская паэтка. Назавіце яе імя, прозвішча і прынамсі два творы.
5. Назавіце загаловак апошняга зборніка творчасці ўдзельнікаў II Літаратурнага конкурсу паэзіі і прозы, арганізаванага БСРП і „Нівай”.

Мар'ян Дукса

### Вакзальны кот

Каток гуляе на вакзале,
за цэлы дзень не занямог.
Ён у сваім каціным шале
шчасліва скача каля ног.
Яму палётаць дзе хапае,
хоць жоўтых лавак — цэлы лес.
Усіх ён лапамі чапае,
да ўсіх ён мае інтарэс.
Ён трэцца каля кожнай сумкі,
так робіць — ведае чаму...
Усюды пахкія ласункі
прыемна мрояцца яму.
Ён незвычайна любіць ласку,
аматар смачненькага ён —
бярэ ў кіпцюрыкі каўбаску
і свежаспечаны батон.
Мурлыча весела і шчыра,
жыццё пакуль што — любата!
Ён туліцца да пасажыраў
каток — вакзальны сірата.

## Роднага не пакіну

Дарагія вучні!

Пішa Вам пастаянны карэспандэнт „Нівы”. Таксама — і „Зоркі”. Ужо 25 гадоў, значыць, чвэрць стагоддзя я „жыву” з беларускім словам. Бывала ўсяляк, але я ніколі не кідаў пісаць. Некаторыя карэспандэнты, бывала, рабілі гэта, чамусьці нават крыўдзіліся, пасля зноў вярталіся на старонкі нашага тыднёвіка. А я даю слова ніколі роднае слова не пакінуць. Думаю, што ў такой працы патрэбны характар, умеласць, старанне і, вельмі важнае — „асабовасць”, індывідуальнасць аўтара.

Да сустрэчы на старонках.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Вясёлы куточак

Урок біялогіі.

— Дзеці, ці ведаеце птушак, якія не жывуць у гнёздах?

— Я ведаю, — ускоквае Ясь. — Гэта зязюля. Яна жыве ў нас у гадзінніку.

* * *

Кліент заве афіцыянта.

— Чаму гэты нож брудны?

— Брудны? — здзіўляецца афіцыянт. — Нядаўна я ім рэзаў мыла.

* * *

— Вы жанаты?

— Не, гэта кот мяне пацарапаў.

**Даслаў Тамаш Дземянюк**
**VII кл. ПШ у Чыжах**

# Чаму старым пашана

*(балгарская казка)*

Адзін люты цар выдаў такі закон: усіх старых людзей забіваць.

— Старыя не могуць ні жаць, ні араць, ні дрэвы секчы, — сказаў ён. — Толькі дома сядзяць, хлеб дарэмна ядуць ды пад нагамі блытаюцца.

І вось царскія каты закасалі рукавы і ўзялі сякеры ў рукі. Усіх старых пакаралі смерцю. Застаўся на той зямлі толькі адзін стары — бацька нейкага баярына. Пашкадаваў баярын старога бацьку, не выдаў яго катам, а схаваў у тайніку і там карміў. Ніхто пра яго чуць не чуў, ведаць не ведаў.

У лютага цара быў вараны конь, ды такі наравісты, якіх свет не бачыў. Не тое, каб аб'ездзіць, але і падысці да яго ніхто не адважваўся. Жыла ў царскім палацы адна знахарка, хітрая кабета. Аднойчы спытаў у яе цар, як аб'ездзіць каня. А яна яму ў адказ:

— Як аб'ездзіць? А загадай, васпан, сваім баярам звіць аркан з пяску. Заарканіш свайго варанога каня пясочным арканам, стане ён рахманей за авечку.

Склікаў пан усіх баяраў і абвясціў сваю волю:

— Заўтра ж прынясіце мне аркан з пяску. А калі з'явіцеся ў палац без аркана, я вас усіх да аднаго пакараю смерцю.

Разышліся баяры, апусціўшы галовы. Ніхто не разумеў, як гэта можна звіць аркан з пяску. Сярод баяраў быў і той, хто ратаваў ад смерці свайго бацьку. Вярнуўся ён дадому, а стары ў яго і пытаецца:

— Чаго зажурыўся, сынок?

Баярын расказаў, якога клопату задаў цар.

— Толькі і ўсяго? — кажа стары. — Ну, табе баяцца няма чаго. Заўтра раніцай, калі вы ўсе зберацеся ў палацы, цар у вас спытае: „Дзе аркан?", а ты яму адкажы: „Цар-васпан, мы гатовы звіць аркан з пяску, ды не ведаем, які табе патрэбны — ці тоўсты, ці тонкі. Дай нам узор".

Сын схапіўся за бацькаву параду. На другі дзень выслухаў цар разумную адгаворку, нахіліў галаву і кажа:

— Што праўда, то праўда, трэба б вам даць узор, ды толькі яго ўзяць няма дзе.

І не стаў цар баяраў смерцю караць.

У тое лета налучылася вялікая засуха, якой на зямлі яшчэ ніколі не было. Усё выгарала — і трава, і збажына. Свірны апусцелі, ні зярняці не засталося на насенне. Спалохаліся людзі — не памерці б з голаду! Цару таксама турбота немалая. Склікаў ён зноў сваіх баяраў і загадвае:

— Слухайце царскае слова! Заўтра ж прыйдзіце ў палац і скажыце мне, дзе ўзяць збожжа для сяўбы. А не — дык я з вас усіх галовы паздымаю.

Выйшлі ад цара баяры самі не свае. Што рабіць? Нідзе ні зярняці — як вымецена! І вось бачыць стары — той, што жыў у тайніку, — сын яго зноў зажурыўся. Пачаў ён сына распытваць, а той яму ў адказ:

— Ну, бацька, на гэты раз і ты мне не дапаможаш.

— Чаму?

— Ды таму, што на ўсёй нашай зямлі няма ні зярнятка, а цар загадаў нам, баярам, заўтра ж далажыць яму, дзе знайсці насенне для сяўбы.

— Не бойся, сынок. Вось вы заўтра прыйдзеце да цара, а ты і парай яму, каб ён загадаў сялянам раскапаць усе мурашнікі, якія толькі ёсць у нашым царстве. Там знойдуць зерне, што мурашкамі сабрана.

На другі дзень сяляне раскапалі мурашнікі і ў кожным набралі па мяшочку адборнага збожжа. Тады цар літасціва абышоўся з баярынам і спытаў:

— Скажы, хто даў табе такую мудрую параду?

— Не магу, васпан. Скажу — загадаеш мяне павесіць.

— Кажы! Ні воласа не ўпадзе з тваёй галавы.

Тут ужо баярын прызнаўся, што схаваў свайго бацьку, а стары навучыў яго адгаварыцца ад пясочнага аркана і параіў, дзе знайсці схаванае збожжа.

І тады выдалі новы закон: ніхто не мае права крыўдзіць старых людзей, і, калі яны ідуць па вуліцы, кожны павінен саступіць ім дарогу.



*Чыжавяне гуляюць у футбол.* Малюнак Томка ДЗЕМЯНЮКА



*Тэатральная група класа VI ц ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.*
Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Як дзялілі Беларусь

Разбітыя летам 1920 года пад Варшавай бальшавікі не мелі больш сіл ісці са сваёй арміяй у Еўропу. Палякі таксама імкнуліся да заканчэння вайны. У кастрычніку гэтага года пачаліся ў Гародні мірныя перамовы. Бальшавіцкі правадыр Ленін прапанаваў аддаць палякам цэлую Беларусь узамен за права Савецкай Расіі на Украіну. На пачатку 1921 года размовы былі перанесены ў Рыгу.

Хаця вырашаліся лёсы беларускай зямлі, ніхто беларусаў не пытаў, што яны думаюць, чаго хочуць. Ні палякі, ні рускія не звярталі ўвагі на тое, што 25 сакавіка 1918 года беларусы аб'явілі волю жыць у сваёй дзяржаве.

18 сакавіка 1921 года быў падпісаны дагавор паміж палякамі і бальшавікамі, паводле якога заходнія землі Беларусі перадаваліся пад уладу Польшчы, усходнія — Расіі.

Гандаль беларускай зямлёй выклікаў пратэсты ўсіх патрыётаў, а перш за ўсё інтэлігенцыі. У верасні дзеячы беларускіх партый і арганізацый склікалі ў чэшскую Прагу нацыянальную нараду, якая палітычную сітуацыю на Беларусі палічыла акупацыяй Бацькаўшчыны суседнімі дзяржавамі. Удзельнікі канферэнцыі заклікалі ўсіх беларусаў змагацца з акупантамі. У выніку на Беласточчыне, Гарадзеншчыне, Віленшчыне ўзніклі партызанцкія групы, якія тры гады змагаліся з польскай паліцыяй, войскам і адміністрацыяй. На другім баку рыжскай мяжы, на Случчыне, пачалося паўстанне супраць бальшавіцкай акупацыі.

# Польска-беларуская крыжаванка № 44

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Listopad | | Sos | Sen<br>Siniec | | | Fundator<br>Kozak pieszych oddziałów |
| Świnia | | Efekt, rezultat | | | | |
| Płot, ogrodzenie | | | | | | |
| Ruina | | | | Inscenizacja | | |
| | | | | | | |
| Pikieta<br>Lakier | | | | | | |
| | | | | | | |
| | | Park | | | | |

*Наш слоўнік: **сярдзюк** — kozak pieszych oddziałów w dawnej Ukrainie.

Адказ на крыжаванку н-р 40: нюх, хор, дуга, жывапіс, аксаміт, сатрап; Ас, ножка, юрыст, вар, дама, пуп, гіт, ласка.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі: **Кася Казак, Лукаш Шырэнас** з Бельска-Падляшскага, **Дарак Екацярынчык** з Кнарыд, **Мажэна Грыгарук** са Старога Корніна, **Марцін Мялешка** з Катоўкі. Віншуем!



Талон „Зоркі" № 44
02.11.1997

# Толькі з песняй

У жыцці — увесь неспакойны, няўрымслівы, празмерна хвалюецца, вечна незадаволены... І толькі з песняй, тады, калі ён займаецца са сваім хорам, збірае народны мелас па Беласточчыне, або проста, калі гутарыць з кімсьці пра родныя мелодыі, гэты чалавек ажыўляецца, на яго твары паяўляецца румянец, а вочы загараюцца любоўю і творчым бляскам.

Сцяпан Копа (бо пра яго пішу) ад маленства памятае, што ў родным сяле Маліннікі на Бельшчыне называлі яго: **„саліст"**. Відаць, ужо тады людзям кідаўся ў вочы яго талент. Зрэшты, малы Сцёпка выступаў на кожнай урачыстасці ў школе. Калі хлопец заканчваў сёмы клас у пяцьдзесят дзевятым годзе, яго бацька (параіў настаўнік) купіў яму за пазычаныя грошы гармонік. На лесараспрацоўках пад Голдапам працаваў ён пасля цэлую зіму, каб магчы звярнуць тыя грошы. Бацька разумеў, што сыну без музыкі не жыць.

Сцёпка на гармоніку навучыўся іграць сам, без ніякай навукі. Ноты пачаў чытаць пазней, будучы вучнем Бельскага беларускага ліцэя, а ў Настаўніцкай студыі ў Беластоку атрымаў музычную адукацыю. Не спыніўся на гэтым: закончыў яшчэ Вышэйшую педагагічную школу ў Быдгашчы і ў Кельцах зрабіў магістэрыюм.

У Гарадку Сцяпан Копа пачаў працаваць 1 верасня 1967 года. Вёў музычнае выхаванне ў пачатковай школе і там жа хор ды музычны калектыў, а апрача таго працаваў з хорам пры доме культуры ў Гарадку.

Ад гэтага часу жыццё Сцяпана Копы было непарыўна звязана з гарадоцкім хорам. Прайшлі гады, Сцяпан Копа ўжо працаваў у Беластоку, але, нягледзячы на непагадзь, прынамсі раз у тыдзень даязджаў у Гарадок на рэпетыцыі хору.

Тут было раздолле для яго душы і невычэрпная крыніца натхнення. І жанчыны з калектыву чакалі яго. Ну, не было такога, каб пазванілі, а ён не прыехаў! З ім адчувалі яны сябе больш упэўнена, у любы момант ён мог нешта падказаць, параіць, быў іх акампаніятарам, часамі спяваў разам з імі. І несліся іх песні праз бары і лясы — ва ўсе бакі, па вёсках і мястэчках, даходзілі не толькі да Беластока, але і ляцелі далей.

Разам назбіралі яны шмат узнагарод на аглядах і фестывалях, ездзілі па ўсёй краіне і за граніцу, расслаўлялі беларускую песню і гарадоцкую зямельку. І з кім бы не працаваў Сцяпан Копа ў Беластоку, якія б не вёў музычныя ці харавыя калектывы, яго сэрца назаўсёды засталося ў Гарадку. Зрэшты, працуюць яны разам і надалей, хаця ад пачатку іх супрацоўніцтва мінула ўжо 30 гадоў і Сцяпан Копа дарабіўся ўжо пенсіі ў Ваяводскім асяродку анімацыі культуры, дзе працуе надалей як паўштатны музычны інструктар, рассяваючы промні замілавання да беларускай песні.

Прывязанасць да роднай песні ў Сцяпана Копы — аўтэнтычная. Яна ідзе з глыбіні яго душы. Аднак жа гэта і неабходны еўрапейскі элемент шанавання народных традыцый, фальклору, рэгіяналізму, без якіх нам у Еўропу — ніяк.

11 кастрычніка г.г. Сцяпан Копа і члены калектыву „Расспяваны Гарадок" наладзілі ў Гарадоцкім доме культуры юбілей, прысвечаны 30-годдзю супрацоўніцтва Сцяпана Копы і гэтага хору. Прыемна было. Спачатку яны выступалі, пасля спяваў нядаўна створаны там калектыў пенсіянераў. Шмат было пажаданняў і віншаванняў. Тамара Бурачэўская, дырэктар Гарадоцкага дома культуры, так і сказала са сцэны: „Калі б а дванаццатай ночы я сказала, што трэба прыехаць іграць, ён бы прыехаў!"



Віншаваў войт Гарадоцкай гміны Яўген Семянюк, дырэктар Аддзела культуры і турызму Ваяводскай управы Казімеж Дэркоўскі, намесніца дырэктара Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Барбара Пахольская, а старшыня Беларускага таварыства Ян Сычэўскі назваў гарадоцкі хор адной з кветак Беласточчыны, якая расцвіла дзякуючы Сцяпану Копу. Да яго віншаванняў далучылася і сакратар Беларускага таварыства Валянціна Ласкевіч. Увайшла на сцэну з пажаданнямі і наша старая знаёмая Надзя Дудзік (якой даўно за восемдзесят) з неадлучнай вышыванай макатачкай у руках (яна ўжо падарыла макатку нават прэзідэнту Аляксандру Квасneўскаму).

І найважнейшае: за працу на ніве захавання мясцовай культуры старшыня Гміннай рады Уладзімір Лукошык уручыў Сцяпану Копу акт прысвоення яму звання **Ганаровага грамадзяніна Гарадка**.

Дзякавалі бабкі, „што столькі лет даў рады вытрымаць з намі, бабамі, і хацеў даязджаць да нас з Беластока і ў дождж, і ў снег..." А Сцяпан Копа стаяў, увесь у кветках, і яго вочы свяціліся сёння нейкім дзіўным, матавым бляскам.

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*

# Бар „У Алеся"

***(заканчэнне; пачатак у 42 н-ры)***

**3. Вечар**

Летні вечар набліжаецца да горада вельмі неахвотна. Не тое, што асенні, які выскаквае з закавулкаў, з цёмных падвалаў і шаст-праст раптоўна акрывае ўсё чорным пінжаком. Летні вечар — гэта вопытны гурман; скаштуе апошні праменьчык, прагліне кропліо першай расы і толькі тады, з элегантнасцю бывалага чалавека асушыць вусны шоўкавай хустачкай паўсвятла. Летні вечар, мяркуючы па ягоных беззаганных намерах, блізкі сваяк графу Лікёру. Хто ад каго вывучыў добрыя звычаі — цяпер ужо малаважнае. Галоўнае, што граф Лікёр уносіць у Алесеў бар павеў таямнічай экзотыкі, а можна сказаць нават набілітуе яго. Калі гэта праўда, што мастацтва змякчае абычаі, тады графа Лікёра побач літаратуры, музыкі і скульптуры можна смела залічыць у вялікую сям'ю мастацтва.

Ён ніколі не скажа: „Адступі, дзед!"

Лікёр — гэта не прозвішча, а проста герб. Вядома, што неафіцыйны і дарма шукаць яго ў геральдычных кніжках, тым не менш прысвоены простанародзем таксама мае сваё важкае значэнне. Хто чым ваюе, тым і пячатаецца. З грацыяй, якая заслугоўвае лепшага месца і часу, граф Лікёр пераступае Алесевы парогі. Часу, у які прыходзіцца жыць, чалавек, так сказаць, не выбірае, а калі ён інтэлігентны і добра выхаваны, месца не мае вялікага значэння.

Граф Лікёр кіруецца ў той бок, дзе паэт Пеця перажоўвае свой унутраны і вонкавы свет, час ад часу півам папіваючы больш жылістыя кавалкі.

Малады чалавек, які сядзіць насупраць Пеці, ведае, што яму пара ўжо збірацца дамоў. Ёсць час балбатні і ёсць час разумнай дыскусіі. Гэты першы якраз канчаецца.

Граф садзіцца выгадна, магчыма найдалей выцягваючы свае доўгія, худыя органы руху. Цяпер гэта ўжо не звычайныя ногі. Цяпер гэта межавыя слупы, якім даручаны гонар стаяць на варце маленькага, бо маленькага, але ўсё-такі графства. Калісьці, дарэчы, было яно значна большае. Некалькі тысяч гектараў добрай зямлі, тэкстыльная фабрыка, гандаль збожжам, друкарня. Усё было і на змарнаванне ўсё пад Ваўкавыскам асталося.

Я ніколі ў Ваўкавыску не быў, часам аднак думаю, што зямля там шматпавярховая, быццам блёкі, што акружаюць Алесеў бар. А калі не, калі звычайная яна там, як і ў кожным другім месцы, тады колішняя Ваўкавышчына працягвалася куды далей за Мінск, за Маскву, за Пецярбург. Падсумаваўшы расказаную ўласнасць усіх графаў і неграфаў, хочаш ці не, такі вось рахунак атрымоўваецца. А з матэматыкай жартаў няма, два і два ніколі не будзе шэсць.

Расставіўшы варту граф Лікёр дабывае люльку, тытунь, запалкі. Ён, падумае нехта, рыхтуецца закурыць. О, не! Люлька на стале — гэта сакрэтны знак Алесю. Нібы звычайны, а ўсё-такі колькі ж далікатнейшы за нахабнасць званка ці напышлівае: „Яне, парасон!" Калі на стале з'явіцца пяцідзесяціграмавая чарка мядовага лікёру — люлька, тытунь і запалкі павандруюць назад у кішэню. Сваё заданне яны сёння выканалі.

Граф Лікёр ведае пачуццё меры і парог, за якім развітваюцца памяць і забыццё, ён ніколі не пераступае. Пакуль апарожніць сваю чарку будзе яе нюхаць, смакаваць, цалаваць, аглядаць з усіх бакоў. З такой самай цярплівасцю і асцярожнасцю падыходзіць да прынады лінь, чым да белай роспачы даводзіць неспрактыкаванага рыбака. Алесь не нервуецца. Ён, так сказаць, вопытны капіталіст, ведае, што пастаянны, няхай сабе нават не надта марнатраўны кліент больш каштоўны за ўсіх аднаднёвых Ракфелераў, якім раз у год пашанцавала выврвацца з жончыных кіпцюроў, ды прамантачыць ладны кус дамашняга бюджэту.

— Што там, спадар Пятро, у краіне лётнай думкі? — гэтае пытанне пачынае кожную іхнюю гутарку, а Пеця і заўжды адказвае:

— Свет — гэта ілюзія.

Сёння аднак усё адбываецца інакш. Праўда, граф Лікёр, як і заўсёды спытаў: „Што там, спадар Пятро, у краіне лётнай думкі", аднак Пеця замест сакраментальнага „Свет — гэта ілюзія", узмацняе жэстам нешта зусім другое, неспадзяванае:

— Жыццё — гаўно.

Асабліва гэтае другое слова і калечыць далікатнае, арыстакратычнае вуха, аднак граф на тое ёсць граф, каб не адразу паказаць, што ў ягоным нутры адбываецца.

Лінь-Лікёр далікатна падымае мядовую прынаду, аглядае яе пад святло. Няма куды спяшацца, няхай Пеця памаўчыць, абдумаецца, ды сам скажа, чаму на ягонай біржы жыцця наступіў такі гвалтоўны крах.

Пеця, быццам здагадваючыся чаго ад яго чакаюць, пачынае расказваць.

— Няма Казіка. Не далей як учора ў „Жамчужыне" сядзелі ўтраіх... значыць я, Казік і Казікаў цесць, а сёння Казіка няма. І цешча ягоная — удава таксама... Піва заказалі... а там паўстанак аўтобусны недалёка. І раптам — страляе нехта, не страляе. Грук пранізлівы. І пабег Казік з цесцем глянуць, што такое робіцца. Потым высветлілася, што гэта паліцэйскі выйшаў пастраляць сабе крыху на аўтобусным паўстанку. І няма ўжо ні Казіка, ні ягонага цесця. Нат піва дапіць не паспелі. Жыццё — гаўно!

У бары робіцца маркотна.

Куфлі апаражняюцца яшчэ, але піва, запраўленае нейкім дзіўным сумам, не смакуе ўжо як раней. Той-сёй адстаўляе пасудзіну, падцягвае нагавіцы і, пастаяўшы хвіліну, кіруецца ў дзверы. Яшчэ некалькі хвілін і бар выплюне апошняга госця, а вуліца загорне ўсіх і панясе каго куды. Адных завядзе ў хатні ачаг, другіх у нейкі падазроны прытон. А яшчэ іншыя будуць да белай раніцы вандраваць доўгімі вуліцамі і зоры лічыць дарма, бо гаснуць яны і распальваюцца без канца і пачатку.

*Лета, 1997*

**Міхась Андрасюк**

# Цёплы хлеб

Давялося мне з'ездзіць у адну беларускую вёску, якая астраўком трымаецца яшчэ ў напіраючым ад захаду польскім моры. Удалося мне знайсці людзей, якія яшчэ трымаюцца мовы і веры продкаў. Пажылы, але энергічны яшчэ чалавек, даведаўшыся хто я, заўважыў:

— У той „Ніве" ўсе — фашысты, супраць нашых...

— Вы чытаеце „Ніву"?

— Не, але чуў.

Гэты ўступ да нашай размовы вельмі адмыслова характарызуе нашу тут сітуацыю, нашы паводзіны. Колькі ж у нас задрыпанцаў, якія лічаць сябе альфай і амегай усяму, а свой псіхічны стан аб'яўляюць свету веерам эпітэтаў; каб быў у іх толк, былі б нейкія факты, аргументы. Факты часта нявыгадныя, пра аргументы трэба мазгаваць, а эпітэт сліна сама на язык прынясе. Таму на эпітэты няма ў нас засухі. Выказванне майго субяседніка не было аднак эпітэтам, толькі інфармацыяй пра адну з формаў нашага задрыпанскага дзікунства, і размова пакацілася гладка далей. Пачутыя мною выказванні зацікавяць, думаю, чытачоў. Прозвішча іх аўтара пакідаю ананімным.

— У польскую армію, — сказаў ён, — быў я змабілізаваны ў жніўні 1939 года. У польска-нямецкую вайну атрымаў я цяжкае раненне на фронце і трапіў у нямецкі шпіталь пад Берлінам. Доўга не мог хадзіць. У шпіталі нямецкія медсёстры і прыбіральшчыцы адносіліся да мяне, палоннага, пагардліва і нават варожа; гэтакім чынам, відаць, хацелі павысіць свой невысокі грамадскі ранг. Паскардзіўся я *оберарцту*, а *оберарцт* не абы-кім быў, быў хірургам. І ён абсадзіў тых бабаў, і яны больш не выяўлялі варожасці да мяне. Калі я стаў на ногі, пачаў крыху дапамагаць хворым, бо ж яны, немцы, таксама людзі. Калі што трэба было, прыносіў ім, а і выносіў *качкі*, не чакаючы прыбіральшчыц. І на кухню пачаў заглядаць: крыху ў нечым памагу, то і мяне частавалі; лепей мне нават было, чым самім немцам. Але ў маім пакоі ляжаў фельдфебель, цяжка паранены, Жалезны крыж за ваенную руплівасць атрымаў, і яму гэты мой „дабрабыт" вельмі не падабаўся, і ён усялякім чынам стараўся мне дакучыць. То я перастаў яму і памагаць: калі ты такі, дык сядзі ў смуродзе пакуль прыбіральшчыца прыйдзе. Паскардзіўся ён *оберарцту*, што я яго не абслугоўваю, але той паясніў яму, што я не маю такога абавязку. Пазней, калі выздаравеў, быў я прызначаны на работу ў тым шпіталі і аставаўся ў ім да канца вайны. Цераз шпіталь прайшло многа палякаў, што ваявалі ў радах Вермахта; з Памераніі, Пазнані і Сілезіі былі яны. Я іх пытаў, чаму яны, палякі ж, ваююць для немцаў, а не супраць. А яны мне гаварылі, што калі б немец выйграў вайну, то яны атрымалі б вялікія маёнткі на Усходзе і жылі б як паны, а нявольнікі на іх працавалі б.

Калі блізіўся савецкі фронт, наш шпіталь эвакуіравалі ў Гесен, а там захапілі нас амерыканцы і палонных перавезлі ў Эльзас. Пытаюць мяне там, хто я: рускі ці польскі. То я ім адказваю, што рускі. Калі так сказаў, дык мяне адправілі ў Марсель; там рускіх грузілі на караблі і адпраўлялі ў Адэсу, а далей ужо Сталін з імі „разбіраўся". У Марселі пазваў мяне амерыканскі афіцэр, умеў ён па-польску і па-руску, і кажа мне, каб я паказаў на карце сваю мясцовасць. То я паказваю Беласток і на поўдзень ад яго. Калі так, кажа той афіцэр, тады ты не ў Расію паедзеш, а ў Польшчу, бо Беласток пад Польшчай. І адаслалі мяне назад у Эльзас; там яшчэ правёў я крыху часу, пакуль мяне адправілі ў Польшчу. Ехаў праз Баварыю і Чэхію, праз Катавіцы і Варшаву. З Варшавы ў Беласток не паехаў, але вылез на „шляхце", каб бліжэй было. Выйшаў я з поезда, вечарэла, убачыў дзвюх жанчын. Пытаю іх, дзе б тут пераначаваць можна; кажу, што з няволі вяртаюся. Яны запрапанавалі начлег у сябе. Ідзем мы, а яны распытваюць мяне, адкуль я, якое маё прозвішча. Я ім сказаў, а яны мяне пытаюць, мо праваслаўны я. Я прызнаўся.

„Езу! — загаласілі яны, — што ж мы з табою зробім!?"

Распыталі яшчэ мяне, ці ў маёй вёсцы жывуць каталікі, і калі я даў ім на гэта станоўчы адказ, яны загадалі мне гаварыць, што я з каталіцкай сям'і, калі б мяне хто далей распытваў. Уводзяць мяне ў дом, там тры мужчыны здаравенныя сядзяць, у карты гуляюць, кураць. Спыталі мяне, хто я. Я адказаў так, як тыя жанчыны мяне вучылі. Мужчыны ахінулі мяне зрокам і адвярнуліся да сваіх картаў. Жанчыны запрапанавалі мне таўканіцу з малаком, але я адмовіўся.

Яшчэ ў Баварыі амерыканцы далі нам сухі паёк на дарогу, але тую ежу ў Германіі мне ўкралі; толькі папяросы асталіся. А ў Чэхіі цяжка было з папяросамі і я чатыры цыгарэты памяняў на булку хлеба. Хлеб той яшчэ цёплы быў, і я яго, галодны, увесь з'еў. То мяне пасля гэтага так ганяла, што я, прыехаўшы амаль дадому, не мог глядзець на ніякую ежу...

Павялі мяне тыя жанчыны на вышкі, далі накрыцца нанач і паказалі, калі б што дзеялася, вулачку і дарогу, якімі ўцякаць. Пераначаваў я і на досвітку, не чакаючы тых жанчын, падаўся паказаным імі шляхам.

А па маёй вёсцы хадзілі па начах і забіралі; то карову, то вепрука, то авечак. І толькі як хто ў ксяндза перахрысціўся, таго ўжо не чапалі; усе мае і маёй жонкі дзядзькі так зрабілі, бо што зробіш, дзе найдзеш справядлівасць.

Цяпер тыя, што забіралі — героі, а той, што цярпеў, мусіць ціха далей сядзець. І ўсе няшчасці толькі на рускіх звальваюць: колькі крыку пра семнаццатае верасня, а пра тое, як самі на Чэхію напалі — ціха. Вось неўзабаве гадавіна тая будзе, тае эйфарыі, калі ў касцёлах у званы білі; цікава, ці ў Польшчы хто пра гэта спамяне. Толькі рускія заступіліся за Чэхаславакіяй, а Літвінаў асцерагаў палякаў, што яшчэ і ім прыйдзецца расплаціцца. А канцлагеры чаму немцы ставілі ў Польшчы, а далей — не? Бо ва ўсіх пастарунках навокал толькі камендант і намеснік былі немцамі, а апошнія — палякі; яны, не немцы ж, мігам жыдоў вылавілі. А цяпер — што яны жыдам дапамагалі... Або тыя польскія ваякі ў Вермахце; цікава, ці знойдзецца ў Польшчы нейкі гісторык, які вывучыць тую з'яву.

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**




*Каменны крыж у вёсцы Райск. Гэтая графіка аўтарства Барыслава Рудкоўскага будзе змешчана ў другім выданні ягонай кнігі „Топография дорог и памятников".*

# Падзяка

У вёску С. заехалі таксоўкай цыганы. Зайшлі ў хату аднае настаўніцы і запрапанавалі, каб яна ў іх купіла прыгожы дыван. Яна згадзілася, купіла, і яшчэ пачаставала іх гарбатаю. Калі гатовіла чай, на момант пакінула пакой, у якім прымала ветлівых гасцей. А ў шафе, што стаяла ў тым пакоі, мела яна схаваныя дванаццаць мільёнаў старых злотаў нядаўняй узнагароды. Калі вярнулася, нічуць падазронага не заўважыла. Госці хутка выпілі чай, бо спяшалі ў далейшую дарогу. І скора паехалі, аж пыл падняўся. Жанчыну нешта цюкнула: яна адчыніла шафу, а там, дзе ляжалі грошы — пуста! Выбегла на двор, але па цыганах ужо след прастыў. І шукай ветру ў полі! Трэба быць асцярожным з незнаёмымі гасцямі.

**Мікалай Панфілюк**

# Хата з краю

Дом Лявона Квяткоўскага стаіць на ўскраіне ўжо дужманай хваіны. Лес падступіў пад ягоны (цяпер сынаў) хутар шчыльнай сцяною. Хата велізарная, у дзве паловы, на каменным падмурку, з цэментавымі ўсходамі, з двума ганкамі. Пабудаваў яе быў Квяткоўскі ў 1956 годзе салідней, каб памясціла ўсю сям'ю. Бо дзяцей меў бы таго гароху — дванаццацёра, з тых, што жылі. А Ганна, жонка ягоная, бачылася ўсё або з жыватом, або з дзіцёнкам прысмактаным да цыцкі. А колькі іх маленькімі пахавалі! А і няпорныя былі... Нарадзіла яшчэ ў сорак шэсць гадоў, быўшы бабуляй. Пахаваў Ганну Лявон у 1975 годзе. Да канца рабіла, ужо моцна хворая, не аглядалася на наймалодшую нявестку, Зоську. Зоська не вельмі была даспадобы старым, нейкая такая няласкавая, жорсткая. Злосная, быццам лёс ёй не ўдаўся. Але што зробіш, добра і так, што Стась знайшоў сабе дзяўчыну, і то нябрыдкую, а то бабылём астаўся б, і што пасля сабе пакінеш на тым свеце?..

Зоська скаланула была Стася: трэба нам новы дом, абавязкова мураванка, з вадой гарачай і *цэнтральным*. Стары пакрыўдзіўся: то ж гатова стаіць хата як звон, ні шашаль яе точыць, ні грыб! Можна яе і атынкаваць, і ашаляваць, краны ж ёсць, бойлер на гарачую ваду можна ўставіць, а печы ёсць — калі мароз, то ж лесу столькі, маладняк церабіць трэба... Месца, о, колькі ў хаце, пакоі вялізныя, нарадзі іх таксама тузін, і памесціш усіх... Але Стась заўзяўся. І паставілі мураванку ў два паверхі, нават падстрэшак вышыкавалі, і парабілі ўсё, мэбляю абставілі. Не горш чым у месце. Сёння было б гэта хіба немагчыма, але гэта было яшчэ за Герка...

— Ойцец, рэнту мае і час, то няхай сам сабе купляе, — звярнулася была Зоська да цесця. — *Найвышай* дам яму сырадою. А памыць *нех* укіне ў пральку, *улончыць* умее.

Праўда, тады стары мог сёе-тое пры сабе зрабіць. Але колькі ж можна сядзець у хаце, чытаць кнігі і газету... Тэлевізар нават папсаваўся...

— Не лазі лепш у вёску, яшчэ дзе заслабне, — папракала яго Зоська. — А калі ўбачу, што зноў выпіўшы, то і гаварыць не буду!

— Ды не піў я гарэлкі, гэта лякарства так патыхае, — мямліў Лявон бяззубым ротам, — пратэзу згубіў у рове ля абочыны шашы, мацаў, лазіў, шукаў ды і не знайшоў...

Зімой паліў толькі на кухні, якая стала і спальняй, і сталоўкай. Не змог адзін уставіць дубальтовых вокан. Стасю нічога не казаў — столькі работы ў сына! Купіў ён тарктар, машыны, усё лета і восень рабіў на сваім і чужым, цяпер у лесе *гаруе*, вяртаецца на прыцемках. Папраўдзе бацька рэдка яго і бачыў. Зоська раз прышле малога з малаком, раз не... Сама не прыходзіць, не пытаецца, чаго старому трэба...

Цяжка было разагнуць Лявона Квяткоўскага, каб памыць, адзець у чыстае і пакласці ў труну. Заснуў навекі, як сядзеў за сталом. На бруднай цыраце ляжалі сухі кавалачак хлеба, пакусаны мышамі, Евангелле і нераспячатаная з бандэролі „Gazeta Bialostocka" (па ёй пазналі, калі памёр). Прасядзеў так нябожчык тыдзень, пры запаленай лямпе, угледаючыся ў шыбы, зарослыя марознымі кветкамі.

Хавалася яго цяжка. Мужыкі ледзь аддзяўблі зямлю на магілку, акалелі. У царкве ўсе калаціліся, мерзлі, а пара ўздымалася аж пад панікадзіла.

Лявонаў дом стаіць і сёння, яшчэ пусты. Зоська мае намер яго наймаць турыстам — усё парабіла ў ім як у шклянцы. Абабілі яго белай шведскай бляхай — аж слепіць вочы! І які помнік бацьку ўзвялі — граніт, залатыя літары, верш. Ад усіх дзяцей з сем'ямі.

**Міра Лукша**

# Простая і тутэйшая гміна

[З ☞ працяг]
паўстання расейцы закрываюць касцёл, а на месцы ўзводзяць царкву, *osadzającą-pora*. У пачатку XX стагоддзя будуецца новая мураваная царква.

„Dopiero w latach przed wojną pozwolono miejscowej ludności na odbudowę kościoła. W 1910 r. przeniesiony tu został drewniany kościół z Korycina. Cerkiew została w 1915 r. ze względów strategicznych częściowo zburzona przez Rosjan, — піша кс. Стапчынскі. — W 1935 r. Ignacy Troska kupuje za 700 zł od konsystorza prawosławnego ruiny cerkwi prawosławnej”.

На яе месцы стаіць сённяшні касцёл у стылі прывіслянскай готыкі. У працы кс. Стапчынскага многа цікавых звестак. Аўтар прыводзіць агульную колькасць жыхароў гміны з 1934 года. Насельніцтва тады было ў два з паловай раза больш як зараз — 10 215 асоб. Цяпер тут 4 288 жыхароў.

— Językiem powszechnie używanym, a właściwie jego narzeczem jest białoruski, zwany przez ludność miejscową „prostym” w odróżnieniu od polskiego. Białorusini (праваслаўныя — Г.К.) zamieszkują zwartą masą ok. 5 000 osób.

**Перамог не надта вядомы**

На апошніх выбарах праваслаўныя славяне атрымалі 7,1 % галасоў. У самым Шудзялаве галасавалі за АВС (37,2%) і СЛД — 31,8%.

— За Цімашэвіча ... і ... ну як там яго? — чыноўніца моцна думае, — ... Ну, за Юргеля! Гэты апошні хаця і не занадта тут вядомы, перамог прэм’ер-міністра.

— Ale nie bardzo on wygrał. On 160 głosów, Cimoszewicz — 116. Ludzie głosowali na SLD, bo mieli już dość PSL-u, — паясняе сціха мая субяседніца.

У палітычным сэнсе Шудзялава — найбольш раўнасільная гміна Беласточчыны.

**Дзейнічаюць моладзь і ветэраны**

— Калісь за камуны працавала нават кіно „Wschód”. Зараз нямногія цікавяцца культурай, — кажа Альжбета Ярашэвіч, дырэктар мясцовага Дома культуры. — Адно што дзеці прыходзяць. Ну і пенсіянеры з ветэранамі. Дзейнічае і гуртко вясковых гаспадынь.

Пенсіянеры і ветэраны часта арганізуюць вечарыны, танцы, запрашаюць ксяндза, лекара, войта і важнейшых людзей. Моладзь па школах раз’ехалася. Толькі ў выхадныя дні наведваюць Шудзялава. Два-тры гады то нават страшна было. Маладыя ваявалі з Крынкамі, Саколкай. Цяпер абселі.

У гміне няма ні вакальных, ні танцавальных калектываў.

— Многія нашы вёскі ажываюць толькі летам, калі на канікулы моладзь прыедзе, — кажа спадарыня Ярашэвіч.

У гміннай бібліятэцы таксама хваляць дзяцей і пенсіянераў. Кнігазбор — дзесяць тысяч. Дырэктар бібліятэкі Гражына Баброўская кажа: „Найбольшае зацікаўленне кнігай сярод дзетак першага, другога і трэцяга класаў. Пасля чытаюць ужо толькі дзяўчаты. Недзе да пятнаццатага года жыцця. Далей прорва. Далей — толькі пенсіянеры.

— Z rolników czy pracujących to raczej nie, — дадае мая субяседніца.

У Шудзялаве найбольшай папулярнасцю карыстаюцца раманы і сенсацыйныя гісторыі. Пра беларускую літаратуру ніхто не пытае.

Ва ўсёй гміне няма навучання беларускай мовы. Няма беларускай інтэлігенцыі. Тых, што не спалучаюць рэлігіі з нацыянальнасцю, лічаць прыдуркамі.

**Абы горш не было**

Па дарозе ў Паўночны Востраў заходжу ў „Agropol” — суполку з дзевяці акцыянераў. На аграмадным панадворку свішча вецер. Аблезлыя брудна-жоўтыя сцены, гурбы паіржавелага жалеза. Пах гусей. Экс-ПГР нагадвае былую турму, нават канцлагер. Усюды — вежы-старажоўкі. Пустыя і сумныя як вочы былога саўгасніка. На дзвярах уваходнай старажоўкі аблезлы плакат з часоў прэзідэнцкіх выбараў: „Tylko Wałęsa”.

Саўгас пачаў паміраць разам са зменай сістэмы. Не памёр да канца, бо ўзнік „Agropol”.

Вацлаў Мірон, другі сярод акцыянераў, не наракае.

— Калі не маглі прадаць збожжа, заняліся птушкагадоўляй. Ну і беспрацоўныя маюць занятак. У „Agropolu” працуе, у залежнасці ад сезона, ад дваццаці да трыццаці чалавек. А што пра слабыя зарплаты кажуць? Усё ж рамантаваць трэба.

Суполка гаспадарыць на 840 гектарах. У наваколлі рэдка сустрэнеце аблагі. Спадар Мірон, як і навакольныя жыхары вёсак, добры палітык. На пытанне: „Як вам жывецца”, адказа: „Абы горш не было”.

**Давай вісьнёўку!**

У Паўночным Востраве, мясціне на мяжы з гмінай Крынкі, таксама не наракаюць.

— Рэнта ёсць, свая бульба ёсць, свае людзі ёсць. Свае — то і праваслаўныя і каталікі. Усе простыя і тутэйшыя людзі. Адно што пахаванні зачаста бываюць. Школьнікі ёсць. Іх нямала. Семнаццаць будзе, столькі ж як і старых кавалераў, — расказваюць зрэдка сустраканыя на лавачках пенсіянеры.

— Людзі ніякай разрыўкі не маюць, — кажа маладзіца без пярэдняга зуба за прылаўкам крамы-будана. Яе апавед спыняе грукат на вуліцы. У магазін заходзяць мужчыны, на першы від дрывасекі.

— Давай вісьнёўку! За ўсе грошы!

У іх тон пераможцаў. Напэўна далі зарплату. Мая прысутнасць выклікае нездаровае зацікаўленне.

Муж прадаўшчыцы, „парашутыст” з Альштынскага: „Магазін, дзякуючы віну і вісьнёўцы, жыве. Без гэтага адразу банкрутства. Вось за няцэлы тыдзень, ад аўторку па пятніцу, дваццаць дзве скрынкі вісьнёўкі пайшло”.

У Паўночным Востраве віно — найхутчэй значыць чарніла. Вісьнёўка, часам „вісьняк” — чырвоны спіртны кактэйль, пасля якога коле ў мазгах. Цэннасць напітку заключаецца ў аб’ёме і сімвалічнай цане.

— Сёння зноў па тавар ездзіў, — кажа муж прадаўшчыцы. На панадворку стаіць яшчэ нераспрэжаны конік з фурманкай. На возе гурба тавараў. Карціна тыповая для тутэйшага бізнесу. Для тутэйшага і простага свету. Дзе ад рэкламных дошак з кока-колай як па вісьнёўцы коле ў мазгах. Дзе ад сабраных вобразаў праследуюць прывіды — пабітыя яцвягі, святыня ў стылі прывіслянскай готыкі, семнаццаць распітых дрывасекаў. Дарога на могільнік. Лясы. Шаленства восеньскіх колераў.

Невыносна цягне дадому.

**Ганна Кандрацюк**

## Выбары ў Дубічах-Царкоўных

Думаў не пісаць пра выбары ў Сейм і Сенат у нас, але паглядзеўшы на іх з перспектывы рашыў напісаць. Перад імі разносіў я па мясцовасцях лістоўкі адданага беларуса Яўгена Вапы; людзі абяцалі мне прагаласаваць за яго. Адзін дзядзька заявіў мне, што ён зусім не пойдзе галасаваць, бо нават Валэнса з’яўляецца камуністам. Здзівіўся я гэтай заяве, бо ж Валэнса не кандыдуе і да таго яшчэ з’яўляецца ярым праціўнікам камунізму.

— Гэта толькі так звонку выглядае, — адказаў дзядзька, — а ў сапраўднасці Валэнса даў камуністам-махлярам райскае жыццё, бо якія пенсіі дастаюць яны за свае хлусню і абман!

Праўду дзядзька сказаў, але на выбарах ён быў і аддаў свой голас за Яўгена Вапу; значыць — паслухаў мяне.

Людзі паўсюдна шапталі магічнае прозвішча „Цімашэвіч” і было відаць, што найбольш будуць галасаваць за яго. Яго супольная з прэзідэнтам паездка па Беласточчыне сваё зрабіла і на людзей падзейнічаў нейкі дух, якога хіба і вучоныя не ў сілах вытлумачыць. І Цімашэвіч атрымаў найбольш галасоў — больш за дзвесце, на другім месцы апынуўся Яўген Вапа — 78 галасоў, а рэшта — гэта амаль нулявыя лічбы.

Фрэквенцыя была нізкая — менш за пяцьдзесят працэнтаў. Каб прывезлі нешта дармовае, дык беглі б усе. А паколькі на выбарах нічога не даюць, толькі трэба там выказаць сваю рашучую волю, то і ахвотных на тое было мала. Нашы людзі толькі за вугламі вялікія „героі”, а ў сапраўднасці хаваюць свае галовы ў пясок. Беларусы — вялікія „веруючыя”, бо толькі верай яны прынялі, што Цімашэвіч будзе нас бараніць. Час пакажа.

**Мікалай Панфілюк**

## Запрашэнне на „Маланку”

Беларускі калектыў з Бельска „Маланка” атрымаў з Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь новыя ўборы. Першы раз пабачыць іх можна будзе ў нядзелю 9 лістапада на сцэне Бельскага дома культуры. У 16 гадзін пачнецца, арганізаваны ў рамках Бельскіх артыстычных кліматаў, канцэрт „Маланкі”. Папулярны калектыў праспявае як свае старыя, добра вядомыя не толькі на Беласточчыне песні, так і апошнія, у новай сцэнічнай апрацоўцы.

Падчас канцэрта госці з Беларусі ўрачыста перададуць калектыву новыя касцюмы. **(ак)**

# „Наша ніва” і ўсходняя Беласточчына

**Частка 2**

Папярэдніца „Нашай нівы” „Наша доля” была газетай радыкальнай. Праўда, у яе публіцыстыцы не было выразна аднaзначных заклікаў да антыцарскай рэвалюцыі, аднак варожасць да царызму была паўсюднай і паслядоўнай. Ужо ва ўступным артыкуле першага нумара тыднёвіка п.з. „Да чытацеляў” ананімны аўтар аднaзначна выказваўся за сялянскую свабоду.

„Прачнуўшыся з цяжкога сну, народ, — пісаў невядомы аўтар, — падняўся як рака на вясну за вялікае дзело свабоды і лепшае долі. Толькі з-пад стрэхі цёмнае хаты мужыка беларуса, як даўней, сотні гадоў таму назад веець холадам магільнага сну...

Але трудна было расстацца з думкамі аб шчасці і мужык пастанавіў завяваць гэту свабоду, што ў пыл развесці абяцалася царства цемнаты і шоў ён завяваць сабе зямлю, што хлебам пшанічным абяцалася накарміць яго. І гдзе толькі ступіла нага яго — з дымам ішлі панскія палацы, свісцелі нагайкі і кулі, лілася нявінная кроў...

Мы паслухалі гэтага голасу — ведаем „Нашу долю”, якая будзе яе прыграма — згадаць лёгка. Пісаць мы яе будзем да вёскі і будзем бараніць справы вясковых людзей...

У дзісейшы вялікі момант, калі ўсе народы гасударства Расейскага аб’явіўшы вайну старым парадкам, напрагаюць усе свае сілы, каб дабіцца свабоды і лепшае долі, мы будзем разам з імі.

Цяжкая і трудная выпала на „Нашу долю” работа. Мы верым, што шчырыя прыяцелі вялікае народнае справы памогуць нам у гэтай рабоце. Мы маем надзею, што пры іх помачы „Нашая доля” разыдзецца далёка па ўсёй нашай маці зямельцы Беларускай”.

Надзеі, выяўленыя невядомым публіцыстам ва ўступным артыкуле, а таксама ў многіх іншых публікацыях „Нашай долі” не пацвердзіліся. Ідэі тыднёвіка, якія выдаваўся ў дзесяці тысячах экземпляраў не маглі дайсці да чытачоў. Амаль усе нумары „Нашай долі” канфіскаваліся царскай цэнзурай.

Ужо ў другім нумары газеты была апублікавана інфармацыя наступнага зместу: „Першы нумар „Нашае долі” па прыказу Віленскага губернатара паліцыя канфіскавала. Разышлася толькі палавіна — пяць тысяч, а пяць тысяч паліцыя забрала. Так што нічога схаваць не ўдалося і дзеля таго высылаць першы нумар нікому не можам”.

У чацвёртым нумары „Нашае долі” паявіліся два супярэчлівыя камунікаты. На першай старонцы гаварылася наступнае: „Аб’яўляем, што дзеля прычын ад Рэдакцыі незалежных „Наша доля” больш выходзіць не будзе”. У далейшым фрагменце паведамлення было сказана, што падпісчыкам у сувязі з тым будуць вернуты грошы.

У гэтым жа нумары на апошняй старонцы таксама пад загалоўкам „Адрэдакцыі” нявідамы аўтар заахвочваў пісаць аб усім, што выступае ў беларускім жыцці. Аўтар заахвочваў чытачоў уплачваць грошы на „Нашу долю”. Невядома чым тлумачыць такую інфармацыйную блытаніну.

У пятым і шостым нумарах тыднёвіка ізноў паявіліся звароты да чытачоў. У гэтых зваротах рэдакцыя прасіла пісаць аб сваёй „долі-нядолі” і прысылаць грошы на падпіску.

Па бліжэй невядомых прычынах 18 лістапада 1906 года выйшаў апошні шосты нумар „Нашай долі”. Праўдападобна газета была знішчана цэнзурай. Амаль усе яе нумары былі канфіскаваны і выдаўцам заглянула ў вочы перспектыва фінансавага краху.

**Алесь Барскі**

# Парнасік

## Аналіз выбараў

Нядаўна мы выбіралі новых паслоў,
Парадачных людзей — не аслоў.
А таксама і сенатараў
З мужным і добрым характарам.
Так мы меркавалі
І сваю рацыю прызнавалі.
Кандыдатаў было процьма:
Хто хіліўся да іх, а хто і глядзеў злосна.
Беларусы каб *скупіліся*,
І да Бога памаліліся,
І зрабілі адзін магутны гурток —
Гэта быў бы верны крок.
Мо тады ўвайшоў бы ў сенат
Не адзін наш верны брат:
Лік быў бы напэўна множны,
Радасны і *заможны*.
І ў сейме знайшлі б крэсла
Нашы людзі, каб звязаліся
з сабою цесна,
І мелі б чым мы ганарыцца,
І перад светам пахваліцца,
Што народ наш верны, дружны,
А таксама адданы, мужны.
А мы разбіліся на групоўкі,
Амаль кожны думаў: я больш лоўкі,
Я прайду, а той *астане*.
Свет жыве ў абмане,
А народ наш — як народ,
Не назву яго, што зброд.
Многія сядзелі ў хаце,
Перад экранам у халаце.
Выбары іх не цягнулі цалкам,
„Ні рыба, ні мяса" — іх марка.
А тыя, што галасавалі,
Не сваіх ушанавалі.
Цімашэвіч ім родны „беларус і брат"
І амаль герой і сват.
Імі выбраныя сенатары і паслы
Разумнікі, а яны — аслы.

**Мікалай Панфілюк**

## Дарога

*Панфілюку падказваю*

Дарогу ў НАТО
Пачаў выбіраці
Ды забыўся пра тое,
Што ў яго ў хаце.
Пачаў ён на Захад
Сілаю ўпіхацца.
Не знаю ці гэта
Яму так і ўдасца.
Такіх як ён людзей
Туды не прымаюць,
Што хата пустая
І сам жыве з краю.
Ён мусіць насамперш
Пра хату задбаці
Ды жонку і дзетак
Туды рыхтаваці.
Зрабіць у сваёй хаце
Прыкладны парадак,
Тады можа НАТО
Будзе гэтым рада.
А так ён цяперка
Ўсім згубу наносіць
Ды цягне з народу
Апошнія грошы.
І ты, Мікалаю,
Пра гэта ўсё знаеш,
Таму перад НАТО
Ўсіх асцерагаеш.
Дарогу ў НАТО
Чым нам пракладаці,
Калі бедны бацька,
Бедна наша маці?

**Мікола Лук'янюк**

## Тры сястры

Вера кажа: „Веру ў Бога".
Надзя кажа: „Надзеюся на Бога".
Люба кажа: „Я люблю Бога".
А яны — усе аднолькавыя:
Адна адну не кахае,
Адна адной не памагае,
Усіх на свеце абмаўляюць.

Дарагія мае сяброўкі,
Нічога, што мае словы колкія.
Нам усім бракуе многа:
Любові да сябе і да Бога.
Пара зняць нам фальшу маскі
І прыступіць да Божае ласкі.
Божая любоў усіх абымае,
Але хто Божу волю спаўняе,
Вучыцца верыць і любіць
І з верай у Бога-Айца жыць,
Той у Бога мае грахоў адпушчэнне.
І вы, сёстры, прасіце прашчэння
Адна ў адной і ў Бога Самога,
Бо туды толькі ўсім людзям дарога.

**Іда Кавалевіч**

# Вяртанне цёткі Мальвіны

**Шаноўная рэдакцыя!**

Калісьці летам у 1980 годзе я друкавала ў Вашай газеце ў асобнай рубрыцы „Гародчык цёткі Мальвіны" свае вершы. Адны чытачы тады мяне хвалілі, другія — крытыкавалі (і добра, бо няма горш, як самазахапленне). І ўсё было на добрай дарозе. Здавалася, прыдбаць нейкую эфектоўную будучыню — гэта ўжо, як кажуць, дробязь! Але так, як іншапланецян у фантастычных кінафільмах, таксама і мяне надоўга заела адна, на выгляд не найбольшая, але вельмі шкодная, бактэрыя. Многа яна здолела намяшаць у маім жыцці, бо вельмі старалася. Гэтым мікробам аказалася маё экс-шлюбнае „шчасце". Вёў ён сябе як малпа з пісталетам, як каналючая сістэма, як цар Аляксандр II у адносінах да сваёй царыцы. На жаль, на тое, каб мацнейшы крыўдзіў слабейшага, у нас ёсць яшчэ многа магчымасцей і перастаў ён толькі тады, калі самому абрыдла. Суды памаглі мне дзіўна мала, менш, чым я спадзявалася. Царыца як царыца, у такой сітуацыі пасля трох месяцаў памерла, а я ўсё жыву. А потым прыйшоў капіталізм і адабраў у мяне працу. Апошнія пяць гадоў я то працую, то не працую, ужо не па сваёй прафесіі. Актуальна я цяпер без працы і без „куранёўкі". Спадзяюся на тое, што суд вырашыць на маю карысць справу майго ранейшага адыходу на пенсію. Але ў судзе вялікая чарга і, мабыць, у канцы кастрычніка або пачатку лістапада справа вырашыцца. Добра што дзеткі выраслі і працуюць. Але вучацца і плацяць за сваю навуку. У капіталізме яно так. Пасылаю вам свае вершы — тыя, якія ў 1980 годзе адкінула цэнзура, і пазнейшыя. Можа на нешта яны вам спатрэбяцца. Мала іх. Апошнія семнаццаць гадоў былі вельмі непаэтычныя.

Ваша
**Цётка Мальвіна**

**Ад рэдакцыі:** Вітаем Вас ізноў, цётанька, на нашых старонках. Дасланыя вершы выкарыстаем.

## Пустыя торбы

Стаім ля крамаў нібы напаказ,
Пустыя торбы у руках трымаем.
І многа нас, і хочам мяса ды каўбас,
Бо ж есці трэба, ну і грошы маем.
Усе аблогі зааралі б за той час,
Свіней мільёны бы нагадавалі,
А мы стаім, чакаем мяса і каўбас,
Бо бачыце: не прывязлі, не далі.
Усе панамі парабіліся ў нас,
Са свіннямі мы нават незнаёмы.
Ды з гэта, вядома, ні мяса, ні каўбас.
Хто нас нарэшце, „бедненькіх",
накорміць?
Бо традыцыйным земляробам
быць у нас
Неэфектыўна і неэфектоўна.
Тады зрачомся мяса і каўбас
І без аглядкі падамося ў горад.
Там інвестыцыі і планы ёсць у нас:
Гадоў мо дзесяць пішам і гаворым,
Але пакуль ні мяса, ні каўбас.
Хто нас нарэшце, „бедненькіх",
накорміць?
Палітык з аграномам не ў гуморы
Стаяць таксама побач, каля нас.
Чаго ім трэба? Кніжак? Не,
мяса і каўбас!
Мо галавою рушыць з іх каторы?
Чыноўнікаў як мурашак ёсць у нас,
І тысячы бяруць за подпісы на „лісце",
А потым хочуць мяса і каўбас.
На вёсцы вось было б ад іх карысці!
Зямлю б ім, курсы ды крэдыты даць,
(Грошы дасць той, хто іх саджаў
на столкі),
Тады прыдбаюць мяса і каўбас,
І нам дадуць, і справы пойдуць
толкам.

**Цётка Мальвіна**

PS. Верш гэта напісала я ў 1980 годзе, але апошнія восем радкоў дапісала ўжо ў 90-х гадах. Можа тады цэнзура і прапусціла б гэты верш, пабачыўшыя такую канструктыўную прапанову? Але ж наўрад.

# Вер — не вер

Астроне! У гэту ноч спалася мне цяжка. Сноў было многа. Як толькі я прачыналася, уся спацелая ад страху, а пасля зноў драмала — снілася нешта новае. Запамятала я з гэтай каруселі такі сон.

Быццам я знаходжуся ў нейкім рэстаране. Са мной якісьці прыемны мужчына, але я не ведаю, хто гэта. Мы хочам прайсці ў зал рэстарана, але перад намі дзве сцяны (злева і справа), як бы сышліся, і праход атрымаўся вельмі вузкі. Сцены гэтыя не мураваныя, а драўляныя — адшліфаваныя і палакіраваныя, быццам бы на нейкім караблі. Я глянула на гэты праход і мяне агорнуў страх: мы ж тудою не праціснемся. Эх, пэўна, гэта не для нас, падумала я.

Але праз нейкі момант мы ўжо ў зале. Сядзім ні то за столікам, ні то на крэслах у адным зале. Не, мусіць мы сядзелі ўсё ж за столікам, бо, здаецца, быў і пачастунак. У зале бітком набіта людзей. Быццам нешта дзеецца на сцэне, але я не ведаю што. Людзі, якія сядзяць за намі, спяваюць тады, устаюць, быццам бы б'юць брава, але я не ведаю нават, каму яны апладзіруюць і што мы маем рабіць. Дык сядзімо далей.

Астроне, баюся, што мой сон абазначае для мяне нешта кепскае. А як ты думаеш?

**Алена**

Алена! А я думаю, што не прадвяшчае ён нічога страшнага, аднак жа прычыны для радасці таксама няма. Будуць нейкія цяжкасці ў тваім жыцці — гэта факт. Асабліва канкрэтна аб гэтым гаворыць тая шчыліна, праз якую вам не ўдалося праціснуцца ў залу рэстарана. Нешта не выйдзе.

Але ўсё ж вы там неяк апынуліся, але мноства людзей навокал можа сведчыць аб страце самастойнасці, значыць, ты будзеш бяссільная ў нейкай справе, якая ляжыць табе на сэрцы. Можа, гэта будзе нейкая інтымная справа, з якой не дасі сабе рады, бо пішаш, што тыя людзі спявалі, а чуць спевы ў сне — не іначай, як закахацца.

Збірай у сабе сілы!

**Астрон**

# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. невысокая шафа з шуфлядамі для розных хатніх рэчаў, 3. беспазваночная марская жывёла са студзяністым целам і шчупальцамі, 5. Пятрусь, беларускі паэт, народжаны ў 1932 г. у Крушынянах, 7. выхадная адтуліна канала ствала агнястрэльнай зброі, 9. „Касі ... пакуль раса", 10. зорка, альфа Паўднёвай Рыбы, 11. памяшканне для захавання трупаў, 12. высокія футравыя боты, якія носяць на поўначы, 14. Муамар, лівійскі палітык (нар. у 1942 г.), 16. падоўжны брус у калёсах, які злучае пярэднюю вось з задняй, 17. сталіца Кубы.

**Вертыкальна:** 1. папугай з моцнай дзюбай, 2. танцуе з кавалерам, 3. неглыбокае месца ў рацэ, 4. заслона, 6. група коннікаў на прагулцы, 8. Поль, французскі сацыяліст, зяць Карла Маркса (1842—1911), 9. хвароба, пры якой валасы збляўтваюцца і зліпаюцца ў камяк, 11. пачвара, страшыдла, 13. Паўла, украінскі паэт (1891—1967), 14. птушка сямейства ястрабіных, кігаўка, 15. дуля або інжыр. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 37 нумара.**

**Гарызантальна:** пісьмо, Арызона, ржанне, малахіт, альбом, чэкіст, рыванол, Пісара, танкіст, чарада.

**Вертыкальна:** басмач, мыслік, Борхес, парта, сталь, Манро, лівень, бензін, Мальта, Эгіна, Ітака, трата.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

Ніва

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1998 r. upływa 5 grudnia 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na I kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

Фрашкі пра нашых

## Фэст Маньяк

Манію AVE такую мае:
Славаформы крыжуе,
Маць феі цытуе,
Шаркае шарадамі
Не радавы, *незаўрадны*;
Як цаляе, так трапляе.
У вербалоз залез, і рады.

**Вандал Арлянскі**

## Думкі ў час мігрэні

* Мужчына датуль з'яўляецца мужчынам, пакуль яму жанчына неабыякавая.

* Ніхто з бедных не любіць багатага, але кожны марыць стаць ім.

* Цешча — сямейная кантрольная палата.

**Пётр Байко**

# Ніўка




*Мал. Н. Атрошчанкі*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Пажылое сужонства прыехала ў курорт. Зайшлі ў найлепшую гасцініцу зняць нумар.

— Прыкра мне, — сказала ім распарадчыца ў прыёмнай, — у нас пік сезона і ўсе месцы забраніраваны. Магу вам запрапанаваць толькі апартамент для маладажонаў.

— Апартамент для маладажонаў? — здзівіўся госць. — Мы ўжо дваццаць сем гадоў пасля шлюбу...

— Ну і што тут такога! Калі б я запрапанавала вам бальную залу, то трэба было б вам танцаваць?

* * *

— Як вы пазналі, што я даліў у віно ваду? — здзіўляецца афіцыянт у рэстаране.

— Яшчэ ў школе вучылі мяне, — адказвае спажывец, — што вада не мае смаку.

* * *

У рэстаране спажывец просіць афіцыянтку:

— Прынясіце мне халодную каву, прыгарэлую яечню, сядзьце побач мяне і пачніце гаварыць пропаведзь.

— Ці вы часам не хворыя?

— Не! Справа ў тым, што мая жонка выехала ў адпачынак, а я па ёй вельмі тужу.

* * *

У гасцініцы парцье будзіць спячага госця:

— Спіце хутчэй! Патрэбная прасціна: накрываюць стол да абеду.

* * *

Гутараць два сябры:

— Ці задаволены ты рэстаранам, які я табе нараіў?

— Нічога: суп нядрэнны.

— А як мяса?

— Як адгарну бульбу, то відна.

* * *

— Чаму ў вашым элегантным рэстаране на сталах стаяць штучныя кветкі? — пытае госць афіцыянта.

— Бо калі мы перайшлі на вегетарыянства, тады нашы госці сталі лічыць натуральныя кветкі закускай.

* * *

Гутараць два сябры:

— Учора я правёў з жонкай цудоўны вечар у рэстаране...

— У іх добры аркестр?

— Цудоўны! Я не чуў ні слова, што яна мне гаварыла.

# Цырк

Вось усе ведаюць прыказку: „Не ў свае сані не садзіся!" А я нядаўна сеў. Здарылася гэта ў цырку. Мяне туды адзін знаёмы правёў. Ён там працуе на... зноў забыўся гэта слова... на канюшні! Ён там корміць коней. Калісьці мы з ім разам вучыліся ў кулінарным тэхнікуме. Толькі ён вучыўся лепш за мяне. Таму яго да коней накіравалі. Цяпер сам есць, як конь. Ну я ўвайшоў у залу, а там людзей!.. Сесці няма куды, музыка іграе! Наогул, усё, як у нас у рэстаране. Толькі чысцей. Што ж, думаю, прыйдзецца так і прастаяць на нагах увесь вечар. Раптам бачу, сядзіць прыгожанькая дзяўчына, а побач з ёй свабоднае месца. Толькі паспеў я сесці, як падышоў нейкі мужчына і кажа: „Ідзіце адсюль!" Я кажу: „Чаму? Гэта што, ваша дзяўчына?" Ён адказвае: „Не, гэта маё месца". Я кажу: „А ў вас білет ёсць?" Ён кажа: „Мне білет не патрэбны. Я падсадка!" Я кажу: „І вам не сорамна? Самі ідзіце адсюль". Ён кажа: „Ну, глядзіце, вам горш будзе!" І пайшоў. Толькі пасля я даведаўся, што падсадка — гэта праца ў цырку. Чалавек сядзіць у зале, як просты глядач, клоуны над ім здзекуюцца, а падсадка за гэта атрымлівае зарплату.

Толькі ён пайшоў, а ў гэты час на манеж выбеглі два клоуны і закрычалі: „Тэрміновая хімчыстка! Тэрміновая хімчыстка! Чысцім проста на вашых вачах!" І нешта мяне пацягнула за язык спытаць: „Як гэта на вачах?" А адзін клоун ужо да мяне бяжыць і крычыць: „Зараз прадэманструем! Так пачысцім! Блішчэць будзеш!" І дае мне вядзерца з фарбай. Я кажу: „Я чысты. Учора ў лазні быў!" А клоун кажа: „Паглядзіце на гэтага чысцюлю! На яго штаны!" І макае пэндзаль у вядро і на маіх штанах малюе нейкі рамонак. Я кажу: „Што гэта вы на мне малюеце?" Ён адказвае: „Чабурашку!" Я кажу: „Чаму?" Ён кажа: „Таму, што ты падобны на кракадзіла!" Я пытаюся: „З мультфільма?" Ён адказвае: „З заапарка!"

А другі клоун стаіць на манежы і нешта ў балеі размешвае, а побач з ім дрэсіраваная малпа — прыёмшчыца, квітанцыі выпісвае. І гэты другі клоун крычыць першаму: „Цягні яго сюды, у нашу тэрміновую хімчыстку!" Я кажу таму, які мяне назваў кракадзілам: „Я нікуды адсюль не пайду!" Ён кажа: „Я табе не пайду! За што ж табе грошыкі плацяць?" І цягне мяне на манеж, да другога клоуна... А той ужо глядзіць на мяне і кажа: „Вашы штаны мы ў чыстку не возьмем. Яны з гузікамі. Я кажу: „Што рабіць?" Ён кажа: „Гузікі трэба зрэзаць!" Бярэ брытву, зразае ўсе гузікі і працягвае руку: „Давай знаёміцца! Мяне завуць клоун Віця". А я б хацеў падаць руку, але яна ў мяне замест гузікаў, я ёй трымаю штаны. А другі клоун мне ў гэты час валасы стрыжэ. Я крычу: „Таварышы! Дапамажыце!" Яны кажуць: „Зараз дапаможам!" Адзін высыпае на мяне мех мукі і крычыць: „Сухая чыстка!" А другі вылівае на мяне балею з нейкай вадкасцю і крычыць: „А цяпер — мокрая!" Падводзяць мяне да малпы і гавораць: „Паглядзі на сябе ў люстэрка! На каго ты падобны?!" Я на малпу гляджу, а яна кажа: „Ой, які страшны! Давайце яго ў апарат!" — і пачалі засоўваць мяне ў апарат. А там нейкі чалавек сядзіць ужо — злуецца: „Ты чаго мне ногі ў твар тыцкаеш!" Я кажу: „Хіба ж гэта твар?" Ён кажа: „Хопіць балбатаць, давай пінжак, мне выходзіць ужо трэба". Я кажу: „Яшчэ чаго!" Тады ён пачаў здзіраць з мяне пінжак і рукаў адарваў. А тут нас раптам з машыны і вытраслі. Я стаю на манежы, адзін рукаў адарваны, штаны спушчаны. А дзядзька крычыць: „Я так не дамаўляўся!"

У гэты час на манеж выбег падсадка і адцягнуў мяне за кулісы. Дзякуй яму, а то б я адтуль не выйшаў жывым.

А калі я выходзіў з цырка, ля ўвахода мяне чакала дзяўчына, да якой я падсеў. Яна сказала: „Я хачу з вамі пазнаёміцца! Вы мне спадабаліся. Калі вы выступалі, ва ўсіх ад смеху жываты забалелі". І я падумаў: можа, мне ў цырк пайсці? Аказваецца: зусім неабавязкова працаваць кухарам, каб пасля тваёй работы ва ўсіх жываты балелі.

**Ліон Ізмайлаў**

*З рускай пераклаў*
*Валерый Бабей*

# Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Ты ў апошні час змяшчаеш лісты ад свякрух. Дзіўная справа: толькі ім бяда з сыновымі, бо цешчы пра зяцёў нешта не адзываюцца кепска.

Мо ты чула, як адна маці, у якой былі дачка і сын, наракала на нявестку. Гэта такі анекдоцік-праўда. Маці кажа суседцы: „Ведаеш, мая дачка выйшла замуж „экстра". Такі хлопец, такі хлопец, проста цацка. Раніцай, пакуль дачка прачнецца, ён ужо суп на снеданне зварыць або канапкі зробіць, чай паставіць. Дзіця памые і накорміць, у прадшколле завязе. Тады толькі дачка, як нейкая пані, устане, памыецца, з'есць, намалюецца — і гайда на працу. А з працы прыйдзе — ужо ўсё куплена, гародніна памытая, толькі бяры ды вары штосьці на абед. А ўжо пра посуд дык і не думае. І бялізну зяць памые, і ў хаце пачысціць. Во дык пашанцавала дзяўчыне!"

„Але сыну — бяда, — прадаўжала тая маці. — Узяў такую гультайку, такога абібока, ну, проста людзям не сказаць, не паказаць. Раніцай ляжыць, як каралева, да сёмай. Каб жа ранենька ўстаць ды мужа на працу выправіць — дык не! Найперш ён бяжыць за свежым хлебам і малаком, пасля рыхтуе снеданне. Тады будзіць дзіця, мые яго і вязе ў прадшколле. А яна, гэта краля, толькі тады ўстае ды пачынае каля сябе хадзіць. Пэўна! Мусіць жа выстраіцца на работу! Не, не пашанцавала майму сыну, як іншым".

Вось так і ў нас. Я выйшла замуж за хлопца, у якога ёсць сястра. Здавалася б, абое — дзеці, як я сабе ўяўляла. Калі я нарадзіла дзіця, мы з малым паехалі да свёкраў. Мой муж там быў удвая больш сардэчны ў адносінах да мяне. Ён жа ведаў, што я там адна, без сваіх бацькоў, без сястры. Мне і сапраўды часамі па целе бегалі мурашкі, калі цешча неадабральна спаглядала на мяне або нават нешта пабурквала сабе пад носам. Інтэлігентка знайшлася, маўляў. Сын стаіць і пялёнкі мые, а яна на шпацыр з дзіцём выбіраецца! О-го-го! Добра ўладкавалася. А той вунь кабан, зяцёк мой, хоць бы талерку адну памыў, дык жа не: напіцца, нажэрціся даадвалу — гэта ўся яго работа. А бедная мая дачушка стаіць, кірпее над каструлямі ды бруднай бялізнай. Трое дзетак выхаваць гэта табе не хаханькі. А ўсё на яе руках.

Я не звяртала ўвагі на тое, што гаворыць свякруха. Старалася маўчаць, каб хаця не пасварыцца. Сыходзіла ёй з вачэй. І мо наша першае там прабыванне скончылася б спакойна, каб не прыехала да іх якраз і дачка. Ну, і закруцілася. Не змагла яна сцярпець, што муж мне дапамагае.

„Табе дык добра, — кажа яна мне аднойчы (відаць было, што паўтарала словы сваёй мамусі). — Брат усё робіць, па крамах бегае, пялёнкі палошча, нават кашку зварыць умее. Не тое, што ў мяне: муж сядзіць, рукі на пузе злажыўшы, ды тэлевізар глядзіць. А мне работы — як завязаць. За ўсё сама адказваю".

Крыўда душыла мяне. Хацелася ёй сказаць усё, што было на душы: пра непраспаныя ночы пры хворым дзіцяці, пра мае нервы, бо невядома было, ці вытрымае дзіця аперацыю сэрца, якую яму зрабілі неўзабаве пасля нараджэння. Дык што ж тут кепскага, што муж дапамагае мне. Але я толькі сказала: „Таму ж я і выйшла за Петруся, а не за твайго Міколу!"

Швагерка абразілася. Кажа, што я кепска адазвалася пра яе мужа. Цяпер яна не гаворыць са мною. А ўсё гэта работа маёй свякрухі. Парай, што рабіць, Сэрцайка!

**Ірэна**

Ірэна! Гэта ўсё ігра. Найгорш пра яе мужа гаварыла яна і яе мама. Але ведаеш, як робяць людзі: гавораць пра сваіх кепска, чакаючы, што апанент скажа адваротнае. А ты, бач, была шчырая і гэтага не зрабіла. І таму так выйшла, як выйшла.

Лепш нічога не слухаць і не гаварыць! Але вазьмі ж ты вытрымай...

**Сэрцайка**